НЕЗАЛЕЖНАЯ ГАЗЕТА

№ 21 (810) 5 чэрвеня 2013

www.nn.by

# Наша Ніва

ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА

Заснаваная ў лістападзе 1906. Адноўленая ў маі 1991. Выдавец: Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы». Выходзіць штотыднёва, у серады

## «Гэта бардэль ці гатэль?»

Што думаюць замежныя турысты пра парадкі ў мінскіх элітных гасцініцах. Старонка 6.



# Даўно не хадзілі без штаноў

Беларусь заганяць у **новы СССР**? Расія спакушае нафтай па «роўнадаходных цэнах». **Старонка 3.**




СЯРГЕЙ ЗІНІН

Дзмітрый Мядзведзеў на саміце прэм'ераў СНД у Мінску.

### Актуаліі

**Лукашэнка ў вобразе Скарыны**

Брэсцкі губернатар павёз дарыць карціну ў Мінск. **Старонка 2.**



### Пра-Бел

**Гэта наша мова, гэта нашы школы**

Дзе дзяцей навучаюць па-беларуску. **Старонка 15.**



### Гутарка

**Мастак Дзяніс Раманюк**

Фота без вады, як хлеб без масла. **Старонка 9.**



### Здарэнні

**Крымінальная карта Беларусі**

Самыя бяспечныя і крымінагенныя раёны. **Старонка 7.**



# Расійскі мастак намаляваў Лукашэнку ў вобразе Скарыны

Губернатар Брэстчыны **асабіста павёз** дарыць карціну ў Мінск.

У Беларусь з персанальнай выставай прыехаў скандальны і вядомы расійскі мастак Нікас Сафронаў. Першым у чарзе стаў Брэст — там работы Сафронава можна ўбачыць з панядзелка. І хоць у брэсцкім мастацкім музеі можна ўбачыць больш за сем дзясяткаў карцін аўтара, увагу адразу прыцягнула адна пад назвай «Партрэт Лукашэнкі ў касцюме Францыска Скарыны». На карціне сапраўды намаляваны малады Лукашэнка ў сярэднявечнай вопратцы.

Аднак правісеў партрэт у галерэі толькі адзін дзень. Наведнікі, што не трапілі на адкрыццё выставы, ужо не знойдуць «рэнесансавага» кіраўніка дзяржавы. І прычынай гэтага была зусім не рэзкая рэакцыя ўлады.

Нікас спантанна вырашыў падараваць Лукашэнку ягоны партрэт. За дастаўку карціны ў Мінск узяўся губернатар Брэстчыны Канстанцін Сумар, вядомы прапанавай паставіць Лукашэнку прыжыццёвы помнік.

«У губернатара Сумара была ўрачыстая вячэра. На ёй Сумар паведаміў, што на наступны дзень (4 чэрвеня) паедзе ў Мінск. І раптам Нікас Сафронаў сказаў, што дорыць гэтую карціну Аляксандру Лукашэнку. Атрымалася прамая аказія — партрэт аказваецца ў Сумара, а ўжо раніцаю той перадасць яго Лукашэнку. Таму адмыслова для гэтага ўвечары адамкнулі музей, знялі партрэт з экспазіцыі, і сёння Сумар адвёз яго ў Мінск», — расказаў пра прыгоды партрэта дырэктар філіяла Брэсцкага абласнога краязнаўчага музея «Мастацкі музей» Васіль Гуляеў.

«Партрэт Лукашэнкі ў касцюме Францыска Скарыны» ўваходзіць у вялікую серыю Сафронава «Рака часу». У ёй мастак стылізуе партрэты вядомых асоб пад творы мінулых стагоддзяў. Кампанію Лукашэнку па «Рацэ часу» састаўляюць Леанарда дзі Капрыа, Уладзімір Пуцін, Дзмітрый Мядзведзеў, Арнэла Муці, Мадонна, Жырыноўскі ў даспехах самурая...

Аднак для гэтага партрэта Лукашэнка не пазіраваў Сафронаву персанальна.

«Для мяне Аляксандр Рыгоравіч — гістарычны чалавек. Даўно хачу напісаць яго партрэт у класічным стылі, як кажуць, — ужывую. Разумею яго занятасць. Але лічу, што ён ужо не належыць сабе, а таму павінен пазіраваць мастакам», — сказаў ён БелТА. Паводле «Брестской газеты», у мастака з Лукашэнкам ужо ёсць дамоўленасць на напісанне партрэта ў класічным стылі.

Выстава Сафронава наведае кожны абласны цэнтр Беларусі, апошнім горадам стане Мінск. Беларусы больш не ўбачаць дзіўнага партрэта Лукашэнкі. Аднак твор мастака не пакіне краіну разам з іншымі карцінамі Сафронава.

**Яўген Крэйда**



ДЗМІТРЫЙ БОСАК, «БРЭСЦКАЯ ГАЗЕТА»

**Берасцейцы здымалі Лукашэнку-Скарыну на мабільнікі.**



**Сябе Сафронаў убачыў Альбрэхтам Дзюрэрам.**

**Прыдворны жывапісец**

Нікас Сафронаў — модны расійскі мастак, работы якога каштуюць дзясяткі тысяч даляраў. Ён малюе зорак эстрады, алігархаў ды чыноўнікаў у выглядзе гістарычных славутасцяў. Напрыклад, Пуцін у яго аказаўся французскім каралём XVI стагоддзя. Мастацкай вартасці ў карцінах эксперты не бачаць, затое кліентам прыемна.

Летась Сафронаў трапіў у непрыемную сітуацыю. Аказалася, што мастак махлярыць: друкуе свае карціны на прынтары, а пасля наносіць на выяву фарбу. Такія штампаваныя партрэты ён прадаваў як творы мастацтва.



**Апытанне на nn.by**

**Вы за байкот Чэмпіянату свету па хакеі — 2014?**



| | | |
|---|---|---|
| За байкот | 658 | 61% |
| Супраць байкоту | 423 | 39% |

**Усяго прагаласавала 1081.**

### Сціслa

**Беларускамоўных абітурыентаў паменела**

Рэкордна нізкая колькасць абітурыентаў выбрала для здачы на цэнтралізаваным тэставанні беларускую мову — усяго 33 564 (28%). Яшчэ пяць гадоў таму такіх было 42%. Тэндэнцыя злёгку мянялася толькі ў 2010, на хвалі тагачаснага павароту на Захад і да нацыянальных каштоўнасцяў.

**Віцебскі пракурор за раскулачванне**

Пракурор Віцебскай вобласці Генадзь Дыско прапануе ўнесці ў заканадаўства норму, якая абавяжа ўласнікаў асабнякоў і дарагіх аўто даказваць, што яны сумленна зарабілі грошы на дарагія пакупкі. Калі не дакажуць, трэба канфіскоўваць дарагую маёмасць у даход дзяржавы, пераканы ён.

**Чысцілі каналізацыю і загінулі**

Трагічны выпадак здарыўся ў агракомплексе «Агнёўскае» Слаўгарадскага раёна Магілёўскай вобласці. У вёсцы Свенск рабочыя на чале з механікам палезлі рамантаваць каналізацыйны калектар і, верагодна, атруціліся газам метанам. Два сантэхнікі і зваршчык загінулі, яшчэ трое ў цяжкім стане трапілі ў бальніцу.

**Настасся і Максім — самыя балбатлівыя імёны**

Спецыялісты кампаніі МТС прааналізавалі звесткі аб галасавых выкліках абанентаў за першы квартал 2013 года і склалі рэйтынг самых «гаваркіх» імёнаў. Сярод жанчын наперадзе Настасся (136 выклікаў за месяц), Юлія (134) і Кацярына (129). Сярод мужчынскіх імёнаў самымі гаваркімі аказаліся Максім (133), Дзяніс (132) і Дзмітрый (121).

**КМ, СГ, ЯМ**

### Рэкамендуем

**Пяць пытанняў са школьнай праграмы**

Відэатэставанне выпускнікоў на вуліцах у дзень апошняга званка.

**Міліцыянты падпісваліся супраць будаўніцтва «Бульбаш-хола»**

Відэа з талакі ў Курапатах.

**Глядзіце і чытайце на nn.by.**

### Самае чытанае на nn.by за 29 мая — 4 чэрвеня

1 «Варта было прадставіцца італьянцам, як стаўленне беларусак тут жа змянілася»
2 Зніклага мінскага студэнта знайшлі нежывым
3 Крымінальная карта Беларусі
4 Майкі з надпісам Nazi на фан-сектары на матчы Кубка Беларусі — фотафакт
5 Рэакцыя маленькай дзяўчынкі на прыбыццё цягніка — відэа
6 Наталка Бабіна: Байкот чэмпіянату-2014!
7 Ураган над Украінай: у цэнтры Адэсы, як у фільме жахаў
8 У Мінску кіроўца зрабіў заўвагу расіяніну, ледзь не пачалася бойка — відэа
9 Мінскія выпускнікі на апошнім званку танцавалі рок-н-рол
10 Дацкія школьніцы даказалі небяспеку Wi-Fi

**Не ўсё ў жыцці апошні раз**

## Дык падпісвайся!

**Падпіска праз Рэдакцыю**

Цана падпіскі праз Рэдакцыю на месяц складае 15000 рублёў.

Мы рэкамендуем падпісвацца праз Рэдакцыю.

Наша сістэма дастаўкі газеты за 6 гадоў даказала сваю надзейнасць. Мы зможам дастаўляць Вам газету хутчэй або з той жа хуткасцю, што «Белпошта».

**Каб штотыдзень атрымліваць газету, дасылайце адрасы і грошы за газету.**

1) Просім усіх ахвотных падпісацца паведамляць у Рэдакцыю свае адрасы і тэлефоны. Гэта можна зрабіць праз: тэлефоны: (017) 284-73-29, (029) 804-12-31, (029) 681-77-91, e-mail: dastauka@nn.by, паштовы адрас: 220050, г.Мінск, а/с 537.

2) Просім у бланку банкаўскага паведамлення ці паштовага перакazу дакладна і разборліва пазначаць адрас, у тым ліку паштовы індэкс і код пад'езда.

**Банкаўскія рэквізіты:**

ПВУП «Суродзічы», УНП 190 786 828

Аддз. № 539 ААТ «Белінвестбанк», вул. Калектарная, 11, Мінск, код 739

Рахунак атрымальніка: 3012 740 628 011

Від аплаты: За газету «Наша Ніва»

**Падпіска праз «Белпошту»**

**Падпісацца можна і ў кожным паштовым аддзяленні:**

індывідуальная падпіска (індэкс у каталозе — 63125) — 15750 руб./месяц;

для прадпрыемстваў (індэкс — 631252) — 18911 руб./месяц.

# Даўно не хадзілі без штаноў

З 2015 года Беларусь загоняць у **новы СССР**? Расія спакушае постсавецкія краіны нафтай па «роўнадаходных цэнах».



Лукашэнка і Пуцін у Астане.

КОММЕРСАНТЪ

Пасяджэнне Найвышэйшай Еўразійскай эканамічнай рады прайшло ў сталіцы Казахстана Астане 29 мая. Ягоным фонам стала працверазенне адносна Мытнага саюза. Навязанае Расіяй інтэграцыйнае аб’яднанне прывяло да спаду ў беларускай прамысловасці.

Тысячы «лішніх» трактараў МТЗ у Мінску больш няма куды ставіць, таму ўрад спешна распрацоўвае схему іх раздачы калгасам за паўцаны. І трактарны завод не адзін такі. Доля грузавікоў МАЗ на расійскім рынку знізілася ўдвая за адзін год. Расія падтармазіла і продажы БелАЗаў.

Зусім адваротнае адбываецца з легкавікамі: цэны на аўтарынку Ждановічы сталі захмарныя, бо абарончыя мыты абмяжоўваюць паступленне заходнееўрапейскіх машын, а завоз далёка не перадавых расійскіх марак расце. Яны ўпершыню выйшлі ў лідары продажаў на беларускім рынку.

Мытны саюз аказаўся выгадным для Расіі стратэгічна і тактычна. У той жа час Мінск перажывае пахмелле на чужой бяседзе. Наступствы далучэння да Мытнага саюза аказаліся для большасці беларусаў сюрпрызам.

Зараз Беларусь чакаюць няпростыя перамовы па ўступленні ў Сусветную гандлёвую арганізацыю. З другога боку, Лукашэнка не губляе надзеі атрымаць ад Расіі новыя субсідыі, гэтым разам ўзамен за панесеныя ад Мытнага саюза фінансавыя страты.

Але сума расійскіх нафтагазавых датацый дасягнула, як падлічылі эканамісты з беларускай Акадэміі навук, рэкордных $10 мільярдаў, і, здавалася б, дзе ж ужо болей.

Каб прымусіць Мінск да далейшай інтэграцыі, Масква ўжывае не толькі пернікі, але і кій. Фактычная блакада продажаў МАЗаў — гэта свайго роду намёк. Калі Еўрапейскі саюз стваралі дзяржавы сувымерныя і дэмакратычныя, у задуманым Еўразійскім саюзе роўнасцю і не пахне. Расія — гігант, прычым у ёй многія мараць пра адраджэнне імперыі.

Тым не менш, Лукашэнка і Назарбаеў ідуць у фарватэры Масквы. І Беларусь, і Казахстан такія ж далёкія ад дэмакратыі, як Месяц ад Сонца.

На саміце ў Астане разгледзелі праект Дамовы аб стварэнні Еўразійскага эканамічнага саюза. Назарбаеў паабяцаў, што ЕЭС (не блытаць з ЕС) будзе запушчаны 1 студзеня 2015. А дакументы аб стварэнні яго павінны быць падпісаны прэзідэнтам Беларусі, Казахстана і Расіі да 1 мая 2014.

Беларусь спрабуе абставіць чарговы этап інтэграцыі такімі ўмовамі, якія б гарантавалі далейшае павелічэнне нафтагазавай рэнты. Галоўныя пытанні, якія вырашае Мінск, гэта будзённыя справы кшталту продажу МАЗаў, гульняў вакол калію і, нарэшце, падпісання нафтавага балансу, з якім Масква працягвае трымаць беларусаў на кароткім ланцужку.

Пуцін эканамічныя бонусы абяцае. «Павінен сказаць, што Расея зрабіла вельмі сур’ёзны крок насустрач усім і заявіла аб тым, што літаральна праз год-паўтара, максімум да 1 студзеня 2015, практычна ўсе тарыфныя абмежаванні, у тым ліку ў нафтагазавай сферы, будуць знятыя», — заявіў Аляксандр Лукашэнка ў Мінску на сустрэчы кіраўнікоў урадаў СНД 31 мая.

Зняццё тарыфных і нетарыфных абмежаванняў у гандлі нафтай з Беларуссю прывядзе да зніжэння цэнаў на яе.

Такі паварот прывёў бы да значнага павышэння тэмпаў росту беларускай эканомікі і сярэдніх заробкаў у краіне.

Праўда, як чакаецца, паралельна ў Расіі будуць падымацца ўнутрырасійскія цэны на энерганосьбіты, якія на сёння нашмат ніжэйшыя за экспартныя. Такім чынам, газ для Мінска можа нават падаражэць. Акрамя таго, на гэтым рынку, імаверна, захаваецца квотная сістэма паставак.

Гэта таксама б ўзмацніла і без таго выключную залежнасць Беларусі ад Расіі.

Мільярд прэферэнцый туды ці сюды не мяняе сутнасці: з уступленнем у Еўразійскі саюз Беларусь будзе заходнім выступам Еўразіі ў Еўропе.

У СССР беларусы аказаліся на мяжы знікнення як народ. Але Аляксандр Лукашэнка гатовы зноў прывесці краіну туды, скуль, па ягоных уласных словах, беларусаў ужо аднойчы выпусцілі «без штаноў».

**Мікола Бугай**

**Фотафакт**



**У інтэрнэце з’явіўся рэдкі кадр: Віктар Лукашэнка на працоўным месцы.**

## Сцісла

### Мацкевіч больш не лідар

Беларускія грамадскія арганізацыі, якія ўваходзяць у Нацыянальную платформу, абралі новага кіраўніка. Замест шэрага кардынала Уладзіміра Мацкевіча ім стаў 39-гадовы старшыня кансорцыума «ЕўраБеларусь» Улад Вялічка. У Нацплатформу ўваходзяць 65 беларускіх грамадскіх арганізацый.

### Бакіеў: Я грамадзянін Беларусі з 2010 года

Зрынуты прэзідэнт Кыргызстана Курманбек Бакіеў, выдачы якога дамагаюцца цяперашнія кіргізскія ўлады, заявіў, што канчаткова сышоў з палітыкі, не збіраецца вяртацца на радзіму і лічыць марнымі спробы дамагчыся ад беларускіх уладаў яго экстрадыцыі. Бакіеў зазначыў, што ён грамадзянін Беларусі з 2010 года і згодна з заканадаўствам экстрадыцыі не падлягае.

### «Дыктатар, рукі якога заплямлены крывёю»

Прэзідэнт Еўрапарламента Марцін Шульц ахарактарызаваў такім чынам Аляксандра Лукашэнку, адказваючы на пытанне, ці варта клікаць беларускага кіраўніка на сёлетні саміт «Усходняга партнёрства» ў Вільні. «Мы павінны знайсці сярэдні шлях. З аднаго боку, кажучы яснае «не» гэтаму дыктатару, з другога боку, імкнучыся адкрыць дзверы беларускаму народу», — патлумачыў Шульц.

### Рада БНР патрабуе вываду расейскіх вайсковых аб'ектаў

«Беларусь робіцца закладнікам імперскіх інтарэсаў Крамля. Усё гэта ставіць пад пагрозу незалежнасць Беларусі», — гаворыцца ў рэзалюцыі.

**ЯМ**



# Еўрасаюз пачынае здымаць санкцыі

Са спіса неўязных выкраслілі **былую журналістку «Советской Белоруссіі»**.

29 мая Рада Еўрапейскага саюза скараціла на аднаго чалавека спіс неўязных беларускіх чыноўнікаў. Абмежавальныя меры знятыя ў дачыненні былой намесніцы рэдактара «Советской Белорусіі» Ганны Шадрыной. Яе ўключэнне ў спіс можна было назваць памылкай — на момант складання «чорнага спісу» яна ўжо не працавала ў прэзідэнцкай газеце, адкуль сышла паводле ўласнага жадання. А раней узначальвала аддзел культуры і лістоў. Шадрына спрабавала дабіцца таго, каб яе прозвішча выкраслілі са спісаў і раней, але марна. Бюракратычны апарат Еўрасаюза фактычна не звяртаў увагі на яе прэтэнзіі.

У інтэрв’ю Ганна прызнавалася, што санкцыі паўплывалі на яе жыццё. Па словах журналісткі, яны хацела паступіць у еўрапейскую аспірантуру і абараніць дысертацыю.

Разам з тым у «чорным спісе» неўязных застаецца яшчэ больш за 200 беларускіх суддзяў і чыноўнікаў на чале з Аляксандрам Лукашэнкам.

**Ягор Марціновіч**

# Скандынаўскія «жахі»

**Дзяржаўныя СМІ абураюцца, як дрэнна жывецца ў Нарвегіі.**




Людміла Ульяшына — у сярэдзіне 90-х гэтае імя гучала ў беларускіх СМІ. Людміла была адной з самых вядомых мінскіх адвакатак. Сярод яе кліентаў была, напрыклад, арыштаваная кіраўніца Нацбанка Тамара Віннікава.

Жыццё павярнулася так, што Людміла выехала ў Нарвегію. Яе муж — навуковец-фізік, займаецца нанатэхналогіямі. Яму прапанавалі цікавую працу ў Осла. Людміла і ў Нарвегіі не згубілася, працуе па спецыяльнасці — у Доме правоў чалавека. А звярнуцца да яе мы вырашылі вось па якой справе.

Апошнім часам у медыяпрасторы пачало з'яўляцца шмат матэрыялаў на тэму «Жахі сучаснай Еўропы». У гэтых матэрыялах, што запоўнілі беларускія і расійскія дзяржаўныя СМІ, падрабязна распісваецца, як дрэнна жывецца на Захадзе, асабліва ў краінах, што адстойваюць правы чалавека ва ўсім свеце, кшталту Швецыі ды Нарвегіі.

Вось, напрыклад, не так даўно адна расейская жанчына выклала ў сеціва гнеўны допіс. Яна развялася з гарачым скандынаўскім мужчынам, але канфліктавала з ім і пасля раз'езду. У выніку органы апекі забралі ў іх дзіця.

Абураная мама дае жару: дзяцей у садках не кормяць, у школе вучаць абы-як, узровень адукацыі нізкі, ювенальная юстыцыя шалее. І наогул, маўляў, заходняе грамадства дэградуе.

Больш за тое, пасля разводу яе нарвежскі муж, выкарыстоўваючы правы бацькі бачыцца са сваім сынам, гвалціў дзіця, а калі яна ўзняла шум, то ў яе самой гэтае дзіця адабралі... Жанчына піша, што ў Нарвегіі існуе традыцыя інцэсту, а «розным відам любові» дзяцей вучаць ужо з дзіцячага садочка. Чытаеш гэтыя публікацыі ў нібыта сур'ёзных газетах і думаеш: няўжо гэта так?

Расказаць, дзе ў падобных тэкстах праўда, а дзе — паклёп, мы і папрасілі Людмілу Ульяшыну.

Трэба размежаваць выпадак гэтай канкрэтнай сям'і і агульныя традыцыі выхавання, перакананая адвакатка Ульяшына.

Цяжка каментаваць тое, што здарылася ў нейкай канкрэтнай сям'і, сямейныя канфлікты заўжды самыя заблытаныя, кажа Людміла. Трэба разумець, што злачынцы ёсць у кожным грамадстве. Яна таксама звяртае ўвагу, што ў «жанчын, якія эмігруюць у Еўропу, цалкам змяняецца кола камунікацыі. Таму бывае складана знайсці падтрымку, калі здараецца штосьці сапраўды страшнае. А калі ў маці ёсць падазрэнні і яна не можа данесці гэта да грамадства — узнікае ўнутраны пратэст», — адзначае Людміла.

Што тычыцца нейкіх «пэўных сэксуальных традыцый нарвежцаў», то «гэта проста хворая фантазія, бо ні адзін народ не мог бы падтрымаць такое, гэта прывяло б да выраджэння нацыі», — кажа яна. Так, у школах сапраўды шмат увагі надаецца сэксуальнаму выхаванню. Існуе дакумент пад назвай «Стандарты сэксуальнай адукацыі ў Еўропе». Там паказваецца, што павінны ведаць і разумець дзеці ды моладзь у розным узросце, з якіх сітуацый яны павінны ўмець знаходзіць выйсце і якія каштоўнасці ды погляды ім трэба развіваць.

**Ні адзін народ не мог бы падтрымаць такія «сэксуальныя традыцыі», гэта прывяло б да выраджэння нацыі »**

Сэксуальная адукацыя абавязкова павінна адпавядаць узросту. Напрыклад, чатырохгадовае дзіця можа спытаць, адкуль з'яўляюцца дзеці, і адказу «з матулінага жывоціка» звычайна дастаткова. Але ніколі нельга казаць дзіцяці, што ведаць пра гэта яму яшчэ рана.

Таксама Людміла дадае, што ў нарвежцаў, у прынцыпе, вельмі высокі ўзровень павагі да дзяцей. З імі не сюсюкаюцца, размаўляюць як з самастойнымі людзьмі. Лічыцца, што высокая ступень даверу да таго, што робіць дзіця, прывучае яго да самастойнасці. Маці тут не ходзіць за дзіцём і не выцірае соплі — лічыцца, што маленькі чалавек многаму павінен даваць рады сам.

Акрамя таго, з самага дзяцінства тут выхоўваецца пачуццё салідарнасці. Напрыклад, на Каляды на галоўнай плошчы стаіць святочная ёлка, і штодзень да яе прыходзяць групы дзяцей. Але не за падарункам, а наадварот — яны самі прыносяць пакункі і каробачкі, складаюць у мяшок. Падарункі пасля дасылаюць дзецям у Афрыку, Азію. Разумееце, дзяцей тут прывучаюць не чакаць падарунка для сябе, а думаць пра падарункі іншым людзям, якія ў патрэбе.

А як наконт абвінавачванняў, што нарвежцы кепска кормяць дзяцей?

Так, традыцыі Скандынавіі розняцца ад беларускіх, у тым ліку і ў ежы. Напрыклад, на абед тут у прынцыпе не ядуць гарачых страваў — ні дарослыя, ні дзеці.

«Не так даўно мы былі ў Вярхоўным судзе, трапілі на абедзенны перапынак, — распавядае Людміла. — Кожны дастаў прынесеныя з дому бутэрброды і чай, яны селі, паелі, а пасля зноў хутка вярнуліся да працы. Сталовак у Нарвегіі вельмі няшмат, хіба толькі для студэнтаў. Затое вечарам, прыкладна а 17-й гадзіне, нарвежцы сядаюць вячэраць. Вячэру яшчэ называюць «сямейны суп». І ад гастрыту тут не пакутуюць. Хаця для нас, канечне, такія традыцыі нязвыклыя».

Калі браць выпадак дамы, якую так шчодра цытавалі афіцыйныя СМІ, то яна, магчыма, выскачыла зумуж за не зусім здаровага псіхічна чалавека. Такое здараецца і тут, і там. Мабыць, і сама яна вяла асацыяльны лад жыцця, раз органы апекі рашылі забраць у яе дзіця. Як і ў Беларусі, у Нарвегіі такое рашэнне прымаецца толькі ў крайніх выпадках, калі здароўю і развіццю дзіцяці з такімі бацькамі пагражае небяспека.

Хутчэй за ўсё, гэта адзін выпадак на мільён, а пэўныя арганізацыі (кшталту «Русских матерей») транслююць гэта як масавую з'яву. Напэўна, камусьці выгадна так дыскрэдытаваць краіны Еўропы.

Калі мы слухаем расказы пра тое, як добра ці як кепска там, дзе нас няма, трэба заўжды памятаць, што ўспрыманне залежыць ад уласнага вопыту чалавека. Добраму чалавеку ўсюды добра, а кепскі, пусты чалавек, абібок заўжды знойдзе прычэпку. Што датычыць Скандынавіі, то дай бог нам пабудаваць такое справядлівае і свабоднае грамадства.

**Настасся Храловіч**

# Перапой ці харчовае атручанне?

Падчас вясельнага адпачынку ў Егіпце **памёр турыст з Оршы.**



Егіпет застаецца адным з самых папулярных месцаў адпачынку ў беларусаў. На жаль, і тут здараюцца трагічныя выпадкі.

25-гадовы аршанец Аляксей Калтуноў разам з жонкай Марыяй праводзілі мядовы месяц у гатэлі 4* Aquamarine Sun Flower Resort у горадзе Таба. Маладыя распісаліся за некалькі месяцаў да падарожжа. Аднак праз некалькі дзён пасля прыбыцця на мора Аляксей памёр.

### «У іх медыкаў прычына ўсіх хвароб ці сэкс, ці стрэс, ці алкаголь»

Эдуард, блізкі сябар Аляксея, расказаў храналогію апошніх дзён яго жыцця. «Усё пачалося 23 мая, калі Аляксей, Марына і яшчэ адна пара з Масквы паабедалі ў гатэльным рэстаране. Мужчыны ўзялі сабе рыбу, а жанчыны — нешта іншае. Пасля гэтага мужчыны адчулі недамаганне. На наступны дзень была запланавана экскурсія, але Аляксей застаўся ляжаць у нумары. Яго сябар паехаў, яго па дарозе закалыхала. Яго званітавала, і гэтым, відаць, прачысціўся арганізм.

Увечары маладыя пайшлі на вячэру, і там Аляксей страціў прытомнасць. Тады выклікалі доктара. А ў тых на ўсё тры адказы: стрэс, сэкс ці алкаголь. Медык усё спісаў на стомленасць ад пералёту і зрабіў Аляксею нейкую ін'екцыю. Пасля яе Аляксей заснуў, але пасярод ночы разбудзіў жонку і папрасіў выклікаць «хуткую» — яму стала вельмі дрэнна, пачаліся сутаргі, а з рота пайшла пена. Марыя пабегла на рэцэпцыю. Медыкаў выклікалі вельмі доўга. Аляксея забралі, аднак па дарозе ў шпіталь ён памёр, так і не прыходзячы ў прытомнасць».

### Медыкі з рэнтгенаўскім зрокам

Пакуль у гісторыі няма яснасці. Страхавая кампанія «ГУТА-Страхаванне», у якой маладыя набылі полісы, адмовілася плаціць за рэпатрыяцыю цела — $3 тысячы збіралі сваякі і сябры. Выпадак быў прызнаны нестрахавым, бо прычынай смерці егіпецкія медыкі прызналі «перапой».

«Мяркуецца, што прычынай смерці з'явілася спажыванне празмернай колькасці алкаголю, у выніку якога падняўся ціск і лопнулі сасуды. Гэта выклікала кровазліццё ў мозг і лёгкія, а таксама моцны занапад кровавароту. Вонкавых пашкоджанняў, слядоў гвалтоўнай смерці не выяўлена», — гаворыцца ў заключэнні доктара Махамада Аль-Омра. Медык прыйшоў да такіх высноў на падставе вонкавага агляду цела. Ад аўтапсіі на месцы жонка Аляксея адмовілася, што дало страхаўшчыкам яшчэ адну падставу для адмовы ў выплаце.

Вельмі дзіўна, што медыкі змаглі паставіць такі дыягназ «на вока». Блізкія Аляксея ўпэўненыя, што ён атруціўся няякаснай ежай. «Ён выпіў максімум куфаль піва, і тое за суткі да смерці», — кажа Эдуард. «Да таго ж у дакументах, якія даслалі разам з целам з Егіпта, няма ніводнай узгадкі пра алкаголь».

Заключэнне егіпецкіх медыкаў пацвердзіцца ці абвергнецца па выніках судмедэкспертызы, праведзенай ужо ў Оршы. Аднак чакаць яе вынікаў прыйдзецца да трох месяцаў.

Прадстаўніца маскоўскага тураператара Anex Tour, паслугамі якога карысталіся Калтуновы, расказала, што пара набывала стандартную страхоўку тыпу «А». «Яна пакрывае выдаткі на рэпатрыяцыю, аднак ніякі выпадак не будзе прызнаны страхавым, калі адбыўся праз алкагольнае ап'яненне. Калі ж экспертыза пакажа іншае, страхавая кампанія пакрые і выдаткі на транспарціроўку цела, і грашовую кампенсацыю», — паведаміла яна.

**Кірыла Хілько**



Калі з'есці столькі хлеба, мяса ўжо не захочацца. На фота — Міхаіл Русы.

# Мяса выгадней купляць у Вільні, чым у Мінску

Але віцэ-прэм'ер Русы перакананы ў поспехах айчыннай сельскай гаспадаркі.

«Чаму ў нас мяса каштуе даражэй, чым у Літве і Польшчы?» — запыталася карэспандэнтка «Камсамольскай праўды» ў віцэ-прэм'ера Міхаіла Русага, калі той выступаў у парламенце. Маўляў, за кілаграм філе свініны ў Літве давядзецца заплаціць 40 тысяч рублёў, а ў Беларусі — 70 тысяч. Русы не паверыў: «Не 40. У нас прыкладна аднолькавыя цэны. Пытанне трэба задаваць не па чутках, а выверанае!»

Русы — вядомы спецыяліст па цэнах. «Пакажыце мне краіну вакол Беларусі, дзе вы зможаце купіць у краме мяса за 12 тысяч», — заявіў ён два гады таму. За такую цану тады ўдалося знайсці косткі на булён. Усе падумалі, што міністра атаварваюць у нейкім асаблівым магазіне.

Што да цяперашніх падлікаў Русага, досыць паглядзець на цэннікі ў




У існаванне такіх цэн віцэ-прэм'ер наўрад ці паверыць. 1 літ = 3280 рублёў.

віленскіх крамах. Напрыклад, сетка «Рымі» прапануе курыную грудку па 25 тысяч рублёў за кілаграм. У фірмовай краме ў Мінску падобнае мяса прадаецца па 37 тысяч.

Наступная прапанова з сеткі «Максіма», той самай, якая прадстаўлена ў папулярным «Акропалісе». Тут свіны кумпяк без костак па акцыі прадаецца за 33 тысячы рублёў. Да акцыі ён каштаваў 46 тысяч.

Тамсама бяром і вараную каўбасу — па 25 тысяч.

У Мінску за кілаграм падобнай свініны давядзецца заплаціць каля 65 тысяч, за вараную каўбасу — яшчэ каля 40 тысяч. Для міністра Русага можа розніца і невялікая, але для большасці сем'яў гэта вой як істотна.

Ягор Марціновіч

## Сцісла

**Салігорск наперадзе краіны**

У Салігорскім раёне па-ранейшаму самыя высокія заробкі ў краіне. У сакавіку тут зараблялі $766. На супрацьлеглым баку рэйтынгу Браслаўшчына — $343. У Мінску тым часам паспелі падлічыць красавіцкія заробкі. У сярэднім выйшла $730.

**Святло падаражэла на 15,7%**

Новыя тарыфы дзейнічаюць з 1 чэрвеня. Выдаткі жыхароў павялічацца на 10—20 тысяч рублёў у залежнасці ад аб'ёмаў спажывання электрычнасці. У Беларусі энергія таннейшая, чым у суседніх заходніх краінах у чатыры разы і ўтрая таннейшая, чым у Расіі.

**Вельмі грошы трэба**

Міністэрства фінансаў размясціла аблігацыі на 275 мільёнаў еўра і прадала іх дзяржаўнаму ж «Беларусбанку». Перакладаць грошы з кішэні ў кішэню зноў давядзецца праз чатыры гады. Тады «Беларусбанку» вернуць каля 350 мільёнаў еўра.

**Літовец набыў самы маленькі банк Беларусі**

Швейцарская кампанія Euro Set Holding, уладальнікам якой з'яўляецца літоўскі прадпрымальнік Андрус Урбонас, набыла 99,99% акцый «Еўрабанка». Раней фінансавай установай валодаў гандлёвы дом «Ждановічы». «Еўрабанк» мае найменшую велічыню ўласнага капіталу з 32 беларускіх банкаў.

**Мільярд з-за мяжы**

Сума асабістых пераводаў грашовых сродкаў, атрыманых беларусамі з-за мяжы, па выніках 2012 дасягнула $ 913 мільёнаў — найбольшы паказчык за ўсе гады. Гэта звязана як з павелічэннем колькасці беларускіх гастарбайтараў за мяжой пасля крызісу, так і з развіццём плацежных сістэм. Яшчэ ў 2010 колькасць грашовых пераводаў складала $500 мільёнаў.

**Барысаўскі крыштальны завод збанкрутаваў**

Прадпрыемства, на якім працуе 900 чалавек, мае запазычанасць памерам $9 мільёнаў. Адной з прычын разарэння стала пазалеташняя аварыя, якая пашкодзіла абсталяванне па выпуску медыцынскага шкла.

**Эмігрант з ЗША купіў Дом піянераў у Баранавічах**

Двухпавярховы дом каля чыгуначнага вакзала, дзе раней знаходзіўся Дом піянераў, ён набыў на аўкцыёне за $58 тысяч. Першапачаткова за помнік архітэктуры прасілі $240 тысяч. У аўкцыёне ўдзельнічаў толькі адзін чалавек.

ЯМ

# Льготную кватэру можна будзе здаваць, калі развесціся

Штраф за незаконную здачу будзе складаць ад $45 да $575.

Аляксандр Лукашэнка ўнёс шэраг дапаўненняў ва ўказы, якія рэгламентавалі працэдуру будаўніцтва жылля з прыцягненнем льготнага крэдыту. «Наша Ніва» адсачыла самыя істотныя змены.

### Хто цяпер можа разлічваць на льготны крэдыт?

Як і раней, дзяржава дапамагае пабудаваць кватэру шматдзетным сем'ям (1% гадавых), сілавікам і жыхарам населеных пунктаў з колькасцю насельніцтва менш за 20 тысяч чалавек (па 5%). Гэта ўсё вельмі выгадныя ўмовы. За кошт інфляцыі такі крэдыт — гэта, лічы, дармовыя грошы. Адносна выгадны і працэнт маладым сем'ям з двума дзецьмі (12,5%), і некаторым нешматлікім катэгорыям грамадзянаў. Праўда, такі крэдыт атрымаюць толькі зусім маладыя людзі. Большасць жа сямей адкладае нараджэнне другога дзіцяці на пасля, каб спачатку добра пусціць карані ў жыцці.

Цяпер да катэгорыі льготнікаў далаліся жыхары гарадоўспадарожнікаў. Гэта шэсць населеных пунктаў пад Мінскам (Дзяржынск, Фаніпаль, Заслаўе, Рудзенск, Смалявічы і Лагойск), а таксама Жабінка каля Брэста і Скідзель каля Гродна. Грошы ім будуць выдавацца пад 5% гадавых, каб паспрыяць адтоку насельніцтва з вялікіх гарадоў.

### Калі можна будзе прадаць кватэру?

Раней трэ' было пачакаць год з даты пагашэння крэдыту, а пасля можна было выстаўляць кватэру на продаж, прычым прыярытэтным куп цом з'яўляліся мясцовыя ўлады.

Пасля ўнесеных зменаў прадаваць кватэру нельга на працягу 5 гадоў з даты датэрміновага пагашэння крэдыту. Калі ж вы вярталі банку грошы на працягу 20 ці 40 гадоў, як і было прадугледжана дамовай, пасля ўсіх выплат зможаце адразу прадаваць кватэру. Але зноў-такі — спачатку прапануйце яе мясцовым уладам.

### Калі ўсё ж здаваць кватэру?

Сачыць за тым, каб у пабудаваным жыллі не было кватарантаў, будуць мясцовыя ўлады і міліцыя. Калі пратакол складуць першы раз, штраф будзе вар'іравацца паміж 4 і 30 базавымі велічынямі. Гэта ад $45 да $345 у эквіваленце. Цана месячнай арэнды кватэры ў Мінску звычайна перавышае гэтую суму...

Для паўторных парушальнікаў на працягу года прадугледжаны штраф ад $345 да $575. Гэта максімальна магчымае пакаранне, ніякай канфіскацыі быць не можа.

**Цана месячнай арэнды кватэры ў Мінску перавышае суму штрафу**

### Каго папрасіць, каб зрабілі выключэнне з правілаў?

Беларускія законы амаль заўсёды пакідаюць абхадныя шчыліны. У раённай адміністрацыі можна папрасіць дазвол здаваць кватэру як мінімум у чатырох сітуацыях. Гэта пераезд у іншую мясцовасць, смерць уласніка жылля ці члена яго сям'і, а таксама развод альбо цяжкі матэрыяльны стан. Карацей, калі дакажыце, што ў сям'і няма грошай — здавайце жыллё на здароўе.

Нягледзячы на гучныя заявы, уведзеныя нормы далёка не драконаўскія.

ЯМ



Пасля пагрозаў Лукашэнкі колькасць здаваных кватэраў у Каменнай Горцы істотна скарацілася.

# Рэйтынг самых прыбытковых кампаній

Топ недзяржаўных: «Контэ СПА» і «Еўраопт».

Міністэрства фінансаў апублікавала гадавыя справаздачы фінансавай дзейнасці адкрытых акцыянерных таварыстваў і кампаній, якія выпускалі аблігацыі. На вяршыні спіса зноў знаходзіцца «Беларуськалій». Летась кампанія атрымала чысты прыбытак памерам амаль $1 мільярд. Услед — нафтаперапрацоўчыя заводы і аўтагіганты, за якімі прымасціўся дзяржаўны інвестыцыйны банк, які ўзначальвае Сяргей Румас.

Сярод кампаній, у якіх няма дзяржаўнай долі, наперадзе знаходзіцца панчошны «Контэ СПА» і сетка крамаў «Еўрагандаль», больш вядомы пад брэндам «Еўраопт».

ЯМ

| | Самыя прыбытковыя кампаніі Беларусі з адкрытай справаздачнасцю | Чысты прыбытак за 2012 год |
|---|---|---|
| | 1 | 2 |
| 1 | «Беларуськалій» | $965 мільёнаў |
| 2 | «Нафтан» | $496 мільёнаў |
| 3 | Мазырскі НПЗ | $319 мільёнаў |
| 4 | БелАЗ | $217 мільёнаў |
| 5 | МАЗ | $190 мільёнаў |
| 6 | Банк развіцця Беларусі | $187 мільёнаў |
| 7 | «Белшына» | $139 мільёнаў |
| 8 | «Гомельтранснафта Дружба» | $129 мільёнаў |
| 9 | «Гродна Азот» | $75 мільёнаў |
| 10 | Гродзенская тытунёвая фабрыка «Нёман» | $71 мільён |
| 11 | «Контэ СПА» | $58 мільёнаў |
| 12 | «Брэстгазаапарат» | $45 мільёнаў |
| 13 | «Еўрагандаль» | $44 мільёны |
| 14 | Гомельскі хімічны завод | $43 мільёны |
| 15 | Мінскі маторны завод | $39 мільёнаў |

# «Гэта бардэль ці гатэль?»

Што думаюць замежныя турысты пра **мінскія гасцініцы**.

Менш чым праз год Беларусі давядзецца прымаць чэмпіянат свету па хакеі. Улады спадзяюцца, што ў краіну прыедуць дзясяткі тысяч турыстаў. Месцы для іх будуць забраніраваныя ў сталічных гатэлях.

Да чаго трэба быць гатовым замежнікам, якія апынуцца ў невядомай для сябе краіне? Каб атрымаць адказ на гэтае пытанне, варта даведацца пра досвед іх папярэднікаў. Мы пачыталі водгукі пра найлепшыя сталічныя гатэлі на папулярным рэсурсе Booking.com. На гэтым сайце можна забраніраваць нумар у больш чым 300 тысячах гасцініц па ўсім свеце. А пасля адпачынку ці камандзіроўкі напісаць, што спадабалася, а што не. Мы перадусім звярталі ўвагу на крытычныя заўвагі. У кіраўніцтва гатэляў яшчэ ёсць час, каб выправіць хібы да пачатку хакейнага першынства. Зрэшты, гарантаваць дакументальную праўдзівасць кожнай з апісаных гісторый не ўяўляецца магчымым — водгукі ўзятыя з адкрытых крыніц.

### «Гарні»: «Дзяўчына стагнала ве-е-ельмі гучна!»

Адзнака — 8,7.
Уласнік — Мінгарвыканкам.

Трохзоркавы гатэль адкрыўся летась на вуліцы Інтэрнацыянальнай — у самым цэнтры сталіцы. Многія здзіўляюцца: браніравалі пакой па адной цане, а пасля давялося плаціць больш, бо змяніўся ўнутраны прэйскурант.

Але галоўная прэтэнзія ў турыстаў да «Гарні» — бедны сняданак. «Афіцыянты хутчэй нязіраюць, чым абслугоўваюць гасцей», — дадае расейка Марына.

«На дзіва добры гатэль без камунізму ўнутры», — прыемна здзіўленая Магдалена з Варшавы. «Але шампуню ў ванне няма, вазьміце з сабой», — удакладняе яна. У ванне — толькі мыла, папярэджваюць турысты адзін аднаго.

Традыцыйная праблема беларускіх гатэляў — хуткасць інтэрнэту — не вырашана і ў «Гарні». Аднычасова можна падключыць да сеціва толькі адну прыладу: ці мабільнік, ці ноўтбук.

Гатэль знаходзіцца ў гістарычным, хоць і рэканструяваным будынку. Таму гукаізаляцыя дрэнная. Турысты, якія жылі на другім паверсе, скардзяцца на шумнае вяселле, якое гуляла ў рэстаране да раніцы. А пажылая пара з Расіі радуецца за суседзяў: «Пацвярджаем, што чутнасць паміж пакоямі высокая. Нашы суседзі проста малайцы. Дзяўчына стагнала ве-е-ельмі гучна!»

Адміністрацыя некаторых сталічных гатэляў нават не знайшла час, каб зарэгістравацца на міжнародным сэрвісе. Напрыклад, на Booking.com няма пяцізоркавай «Еўропы».


На першым паверсе «Краўн Плазы» знаходзіцца начны клуб Next.

### «Краўн Плаза»: «Такое ўражанне, што першы паверх — гэта бардэль»

Адзнака — 8,0.
Уласнік — «Мінск Прынцэс Атэль» (Турцыя).

Пяцізоркавы гатэль знаходзіцца каля стадыёна «Дынама». «Надзвычай высокая цана пражывання», — адразу папярэджваюць турысты. Да таго ж, няма паркоўкі.

У маладой пары з Расіі набалела: «Працёртыя амаль да дзірак ручнікі, да старых халатаў непрыемна нават дакранацца, тапачкі пахнуць смярдзючай гумай, а шампунь нагадвае па паху сродак для мыцця посуду». «Пульт да тэлевізара выдаецца па патрабаванні. Праўда, ён і не патрэбны: адзін расійскі канал, адзін беларускі і штук 20 на арабскай мове», — заўважае Уладзімір з Пецярбурга.

Але найбольш пытанняў да аховы і дзяўчат. «Ці можна падыходзіць да пастаяльца, які сядзіць у лобі, з патрабаваннем не спаць?» — шчыра не разумее Максім з Пецярбурга.

Іван з Кіева расказвае свае ўражанні: «У гатэлі вельмі шмат прастытутак. Настолькі, што гэта кідаецца ў вочы. Такое ўражанне, што першы паверх — гэта бардэль. На кожным паверсе ходзяць грамілы-ахоўнікі. Рэальна напружвае».

Такі водгук не адзінкавы. «Ахоўнікі тоўпіліся на лесвіцы, да непрыстойнасці пільна на нас глядзелі. Апафеозам стала тое, што адзін з іх літаральна ўлез да мяне ў ліфт з пытаннем: «А вы што, тут жывяце?» — шакаваная Наталля з Масквы.

«Вялікая колькасць дзяўчат спецыяльнай накіраванасці. Проста як на рынку. Першы раз бачу такі бардэль», — дзеліцца ўражаннямі Марына з Масквы.

«Агромністая колькасць турэцкіх, ліванскіх і астатніх арабскіх падданых займаюцца адкрытым з'ёмам. Ну і дзяўчаты лёгкіх паводзінаў...» — падсумоўвае расійскі падарожнік.


«Люкс» у гатэлі «Мінск» каштуе ад $300 за ноч, але выглядае па-савецку, скардзяцца турысты.

### «Вікторыя»: «Змрочны савок»

Адзнака — 7,9.
Уласнік — Мінгарвыканкам.

Чатырохзоркавы гатэль знаходзіцца далей ад цэнтра горада, чым астатнія гасцініцы. Але цэны ад гэтага не становяцца меншымі.

«Кухня ў рэстаране гатэля няварта 4*, повару трэба сур'ёзна павысіць сваю кваліфікацыю», «Мы ніколі раней не спрабавалі ў 4*-гатэлі такой жудаснай ежы!», «Персанал у рэстаране сапраўды непрыязны, вы адчуваеце сябе, як у Савецкім Саюзе...» — гэта прэтэнзіі ад розных пастаяльцаў.

«Змрочны савок», — папярэджвае маладая пара з Расіі.

«У бары гатэля па вечарах збіраюцца дзяўчаты лёгкіх паводзінаў, працэс гандлю ідзе на вачах ва ўсіх... Адміністрацыі гатэля трэба вызначыцца, чым яна кіруе — местачковым бардэлем або рэспектабельным бізнес-гатэлем», — падсумоўвае Алена з Пецярбурга.


«Вікторыя» пачынала будавацца яшчэ пры Міхаілу Паўлаву. Неўзабаве па суседстве адкрыецца «Вікторыя-2».

**Рэйтынг гатэляў Мінска на Booking.com**

| | |
|---|---|
| «Гарні» | 8,7 |
| «Краўн Плаза» | 8,0 |
| «Вікторыя» | 7,9 |
| «Ля Фантана» | 7,8 |
| Гатэль IBB | 7,7 |
| «Мінск» | 7,6 |
| «Спадарожнік» | 7,6 |
| «Юбілейны» | 7,4 |
| «Планета» | 7,3 |

### «Мінск»: «Савок за неадэкватныя грошы. Але цалкам гарманічна»

Адзнака — 7,6.
Уласнік — Кіраўніцтва справаў прэзідэнта.

Чатырохзоркавы гатэль каля плошчы Незалежнасці, па словах свайго дырэктара, стаў пераважнай базай для «цапочных турыстаў», якія едуць у Расію.

Найбольш пастаяльцаў раздражняе неадпаведнасць «Мінска» патрабаванням сучаснасці. «Калі б гатэль знаходзіўся не ў Мінску, а ў якой-небудзь краіне Заходняй Еўропы, яго можна было б ахарактарызаваць як «савок за цалкам неадэкватныя грошы». Але, кідаючы погляд на рэаліі, бачныя з акна гатэля, разумееш, што ўсё выглядае досыць нядрэнна. Ва ўсякім разе, цалкам сабе гарманічна», — Аляксандр з Масквы фармулюе для сябе канцэпцыю развіцця «Мінска».

«Прыложкавая лямпа не працавала, не было побач разеткі. На просьбу падключыць гэтую лямпу адрэагавалі, прыняўшы лямпу з нумара. Няма лямпы — няма праблемы», — расказвае Вольга з Екацярынбурга.

Пажылая пара з Канады ў шоку: «Мы былі абражаныя ахоўнікам гатэля па расавай прыкмеце».

Турыстка з Бостана наракае на прастытутак у бары на першым паверсе, але ставіцца да гэтага з разуменнем. «У цэлым гэта, вядома ж, не 4*-гатэль — я даю яму максімум 2*».

**Ягор Марціновіч**

# Крымінальная карта Беларусі

Самыя **бяспечныя** і **крымінагенныя** раёны краіны.

Белстат падлічыў колькасць зарэгістраваных злачынстваў у кожным з раёнаў Беларусі ў 2012 годзе. Згодна з тлумачэннем, у спіс патрапілі грамадска небяспечныя дзеянні, забароненыя Крымінальным кодэксам.

Усяго такіх злачынстваў налічылася 102 127. Гэта істотнае зніжэнне ў параўнанні з папярэднімі гадамі, калі фіксаваліся 130—150 тысяч злачынстваў. Ці то беларусы перасталі парушаць закон, ці то такія выпадкі рэгіструюцца не так актыўна.

Кожнае чацвёртае злачынства фіксавалася ў Мінску, але тое не дзіва, калі ўлічыць колькасць насельніцтва ў сталіцы. На 10 тысяч чалавек тут фіксуецца 132 злачынствы.

**Калі ж казаць пра колькасць злачынстваў па раёнах, то ў лідарах наступныя адміністрацыйныя адзінкі:**

1. Бабруйскі — 197
2. Глускі — 184
3. Віцебскі — 180
4. Бярэзінскі — 173
5. Пухавіцкі — 171
6. Гомельскі — 166
7. Аршанскі — 159

Прычым Бабруйшчына застаецца крымінальным цэнтрам краіны год за годам. Напрыклад, пазалетась там было зарэгістравана 303 злачынствы на 10 тысяч чалавек.

**Самыя бяспечныя раёны выглядаюць наступным чынам:**

1. Драгічынскі — 53
2. Жабінкаўскі — 53
3. Іванаўскі — 56
4. Ганцавіцкі — 57
5. Нясвіжскі — 58
6. Браслаўскі — 63
7. Ляхавіцкі — 65.

**Ягор Марціновіч**




# Вада была ягонай стыхіяй — у вадзе і згінуў

Мінчук **не вярнуўся дамоў** пасля канцэрта.




Рыгора Брацянкова шукалі ўсім Мінскам. Прыпынкі грамадскага транспарту, іншыя масавыя месцы былі абклееныя партрэтамі хлопца. І пастаянна з'яўляліся паведамленні, што Рыгора бачылі то на адной вуліцы, то на іншай. Усё правяралася, але не пацвярджалася. Ніхто публічна, пры абмеркаванні ў сацыяльных сетках (была створана асобная старонка для пошукаў хлопца) не рашаўся загаварыць пра смерць. Яго шукалі да апошняга. Нават калі родныя пацвердзілі, што Рыгора знайшлі патанулым, сёй-той яшчэ падбадзёрваў астатніх: «А мо не ён?»

23-гадовы Рыгор Брацянкоў не вярнуўся дамоў пасля канцэрта на Мінскім моры 25 мая. Яго знайшлі вадалазы. Адгукнуліся сведкі, якія ў той дзень нібыта бачылі двух чалавек, што палезлі купацца. Адзін з іх на бераг не выйшаў. Але ніхто не стаў шукаць...

«Ён быў жыццярадасным: энергія з яго так і біла. Займаўся актыўнымі відамі спорту: ролікі, канькі, скейт... Зімой пастаянна на сноўбардзе, а летам — з дошкай для сёрфінгу, — расказаў знаёмы Андрэй. — З самага дзяцінства катаўся на ўсім, што магло ездзіць. Пасля дзявятага класа ён вучыўся ў нейкай установе, што звязаная з МНС. І тады пачаў часта ездзіць на розныя спаборніцтвы і ўсё расказваў, што за гэта нават грошы плацілі. На пахаванні я ўбачыў шмат ягоных медалёў».

Рыгор быў прафесійным спартоўцам. Але два гады таму кінуў. «Ён быў кандыдат у майстры спорту. Уваходзіў у нацыянальную каманду па сноўбардзе. Рыгор быў прызёрам першынстваў у Беларусі, прадстаўляў краіну на этапах Кубка Еўропы. На этапе Кубка свету ў Фінляндыі ўвайшоў у топ-30 спартоўцаў, — кажа ягоны былы трэнер Леанід Мельнікаў. — Але два гады таму вырашыў, што не зможа далей развівацца, не здолее паказаць больш вынікаў».

«Раней мы з ім часта бачыліся, а пасля ён усё ў паездках быў. Пастаянна спяшаўся некуды. Апошнім часам сустракаліся толькі ў двары, і тое, калі ён позна прыязджаў. І пагаварыць фактычна не выпадала. Ён і не асабліва пра нейкія планы ці мары расказваў. Здавалася, што ён заўжды дамагаўся, чаго хацеў, ні намёку на нязбытную мару», — падсумоўвае Андрэй.

Пахавалі Рыгора Брацянкова на Заходніх могілках Мінска.

**Сяргей Макарэвіч**

## Сцісла

**Страляў у кабана, а трапіў у сябра**

Трое быхаўцаў адправіліся на начное паляванне, хаця не мелі дазволу. І стрэльбу ўзялі толькі адну на ўсіх. Пакуль двое стаялі ў полі, трэці са стрэльбай высачыў кабана і пагнаў яго. А калі рашыўся стрэліць, то трапіў сябру ў плячо. Той памёр ад страты крыві.

**Угналі «БМВ» пад дулам пісталета**

Малады мінчук рашыў зарабіць рубель, а страціў аўто. Ён спыніўся ўздзень на Партызанскім праспекце каля двух мужчын, што галасавалі. Але тыя, як селі ў салон, пачалі пагражаць пісталетам. Кіроўцу высадзілі, а самі з'ехалі. Затрымалі іх у той жа дзень. Пры сабе ўгоншчыкі мелі пнеўматычны пісталет.

**Пенсіянерка пастаўляла наркотыкі**

65-гадовая жанчына вырашыла зарабіць прыбаўку да пенсіі. Але спосаб выбрала сумнеўны — стала наркакур'ерам. Яна перавозіла метадон з Магілёва ў сталіцу. Пры затрыманні мінскім спецназам у яе знайшлі 21 грам наркотыкаў, расфасаванага па дозах — на $2,5 тысячы. Пенсіянерка знаходзіцца ў ізалятары.

**За 300 метраў ад хаты**

Сям'я пенсіянераў вярталася з Гродна і не даехала да дома 300 метраў, у іх «Рэно» ўрэзалася «Таёта Лэнд-Крузэр». За рулём апошняй была таксама пенсіянерка, але моцна п'яная. У яе крыві выявілі 2,14 праміле алкаголю. Віноўніца аварыі амаль не пацярпела.

**Патануў міліцыянт**

У Лунінецкім раёне патануў намеснік начальніка мясцовага РАУСа Анатоль Шостак. На выхадных ён з сябрамі адправіўся на рыбалку на Прыпяць. Мяркуецца, што іх лодку перакуліла моцным ветрам. Двое мужчын даплылі да берага, трэці не здолеў выплысці.

**Дэкан браў хабар у еўра**

Скончана расследаванне крымінальнай справы супраць былога дэкана аднаго з факультэтаў Полацкага дзяржаўнага ўніверсітэта. Выкладчык абвінавачваецца ў тым, што за 90—100 еўра дапамагаў студэнтам абараніць кантрольную работу альбо здаць экзамен. Такой дзейнасцю ён займаўся два з паловай года.

**КМ**



Цэнтральнае РУУС Мінска расшуквае **Максіма Васільевіча Сойку**. 19 красавіка ён пайшоў з дому і не вярнуўся. Пакутуе на псіхічнае захворванне, можа паводзіць сябе неадэкватна. Прыкметы: на выгляд 20—25 гадоў, рост каля 175—185 см, хударлявага целаскладу, валасы светла-русыя, прыпадае на адну з ног.

Хто ведае месцазнаходжанне зніклага, тэлефануйце на: (017) 288-79-02, (017) 288-02-02.



Мінчук з незнаёмцамі выпіваў у двары 25 мая. Калі заснуў, сабутэльнікі вырашылі зняць у яго з шыі залаты ланцужок. Ад дотыкаў ён прачнуўся, але гэта не стрымала зламыснікаў. Цана ланцужка — 24,9 мільёна рублёў. Падазраваных заўважылі на запісах камеры відэаназірання ў краме, куды яны заходзілі перад крадзяжом за алкаголем.

**Хто пазнаў падазраванага (на фота)**, тэлефануйце ў Фрунзенскае РУУС Мінска на: (017) 213-04-76, (017) 252-02-02, (044) 742-05-19.



**Васіль Зяновіч з вёскі Мазулеўшчына** Валожынскага раёна пайшоў з дому 22 красавіка. Больш яго не бачылі. Прыкметы: на выгляд 32 гады, рост каля 160—174 см, хударлявага целаскладу, вочы блакітныя, валасы чорныя. Кульгае, ходзіць павольна, на плячы мае татуіроўку.

Хто ведае месцазнаходжанне зніклага, тэлефануйце ў Валожынскі РАУС на: (01772) 5-53-02, (01772) 5-40-21, (029) 507-66-98.

# Вайцюшкевіча не пусцілі ў Вялікабрытанію

Пасольства адмовіла ў візе музыку, бо ён афіцыйна **не працаўладкаваны**.

Музыка падаваў дакументы на шасцідзённую візу, каб трапіць на імпрэзу, якую 1 чэрвеня ладзілі беларусы Вялікабрытаніі.

«Справа ў тым, што я — беспрацоўны, вольны мастак, і таму не магу пазначыць нічога ў адпаведнай графе ў анкеце. Але ж я прадставіў выпіску, якая сведчыць, што ў мяне на рахунку дастаткова грошай, каб пражыць у Вялікабрытаніі гэтыя шэсць дзён. Мой пашпарт трымалі ў амбасадзе два тыдні», — кажа музыка. Заставацца ў Вялікабрытаніі Вайцюшкевіч, ясная справа, не планаваў.

Для таго, каб атрымаць візу ў Вялікабрытанію, акрамя звычайных звестак з месца працы трэба прадставіць біяметрычную інфармацыю, у некаторых выпадках — прайсці невялікае сумоўе. Калі краіну плануе наведаць беспрацоўны, ён мусіць паведаміць у анкеце, хто яго фінансава падтрымлівае і з якой нагоды гэта робіцца. Вайцюшкевіч кажа, што меў запрашэнне ад брытанскіх беларусаў, якое таксама аддаў у пасольства.



Але там, відаць, да персоны музыкі падышлі бюракратычна. У расстроеных пачуццях Вайцюшкевіч з'ехаў на Нёман, імпрэза ў Лондане прайшла без яго.

**Настасся Храловіч**

**Фотафакт**



**У Празе найбольшая паводка за апошнія 10 гадоў**

У чэшскай сталіцы парушаная праца грамадскага транспарту, цэнтральныя станцыі метро закрытыя. Супрацоўнікі надзвычайных службаў узводзяць умацаванні ўздоўж Влтавы, каб не дапусціць затаплення гістарычных раёнаў цэнтра горада. Турыстаў просяць устрымацца ад паездак у Прагу бліжэйшым часам.



СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

# У Беларусі курыць кожны чацвёрты

Такія звесткі выбарачнага абследавання дамашніх гаспадарак па ўзроўні жыцця апублікаваў Нацыянальны статыстычны камітэт да Сусветнага дня без тытуню, які адзначаўся 31 мая.

Сярод мужчын доля курцоў склала 48,6%, сярод жанчын — 9,7%.

Пры гэтым за апошняе дзесяцігоддзе доля жанчын, якія кураць, узрасла ў 1,5 разу, мужчын — знізілася на 4,4%. Большасць мужчын-курцоў (92,6%) кураць штодня, у той час як сярод жанчын-курцоў штодня кураць тры чвэрці (75,3%).

«Штогод 31 мая ва ўсім свеце адзначаюць Сусветны дзень без тытуню, прыцягваючы ўвагу да небяспекі для здароўя, звязанай з ужываннем тытуню», — адзначаецца ў каментары Белстата.

**БелТА**



**Камертон Сяргея Ваганава**

# Дошкай па памяці, альбо «Не... Пампіду»

Нечаканая з'ява: расейцы палюбілі Брэжнева. Калі верыць вынікам нядаўніх сацыялагічных апытанняў, яны лічаць яго найлепшым кіраўніком дзяржавы ў XX стагоддзі. Не Сталіна, што традыцыйна было б зразумела, не Ільіча, а менавіта «дарагога Леаніда Ільіча», што раптам аказаўся жывейшым за ўсіх нежывых...

На гэтым фоне разгарнуўся маленькі спектакль — расейскі дэпутат Аляксандр Хінштэйн, нестамлёны знаўца ўсяго, што робіцца па завуголлях улады, і, адпаведна, дзе і што дрэнна ляжыць, прапанаваў аднавіць мемарыяльную дошку на доме, дзе жыў Брэжнеў. Аднавіць гістарычную, так бы мовіць, справядлівасць...

Якая, здавалася б, нам справа да смешных, на першы погляд, гульняў расейскага палітычнага бамонду? Між тым, справа ёсць, і далёка не такая ўскосная, як можа падацца. Па сутнасці, знойдзены яшчэ адзін сродак абгрунтоўваць нязменнасць улады. У дадзеным выпадку — прыкладам звязанай з імем Брэжнева так званай «эпохі застою», калі «ўсё было добра...»

Сённяшнім расейцам, ды і беларусам, стомленым бясконцай, ужо даўжэйшай за тэрміны брэжнеўскага ўладарання, барацьбой за выжыванне і страхам ад няведання будучыні, спакваля ўнушаецца думка, што эканамічныя і палітычныя пераўтварэнні магчымы толькі ва ўмовах грамадскага зацішша, паслухмянасці і бязмежнага даверу да ўлады — яна, так бы мовіць, ведае, што робіць...

Няма сэнсу падрабязна пералічваць прыклады брэжнеўскай «дабрыні». Яе наступствы адчуваюцца паўсюдна і сёння.

Што, вайна Расіі з Грузіяй у 2008 узнікла знянацку? Ці не паўстае за ёю Афган?

Што, разгул карупцыі і татальнага крадзяжу — гэта вынаходніцтва рэфарматараў? Ці, можа, усё ж вынік гніення «рыбы», то бок улады і грамадскай маралі, з брэжнеўскай «галавы»?

Сцвярджаюць, што пры Брэжневу не было ГУЛага. Знешне так, але насамрэч — хлусня. І па фактах крымінальнага пераследу дысідэнтаў, і па маштабным, на ўсю краіну, пераўтварэнні ў ГУЛаг псіхлякарняў. Карная медыцына — гэта не нацысцкі, гэта «брэжнеўскі» тэрмін.

А што, сённяшні пераслед апазіцыі, зняволенні па палітычных матывах — не наступства брэжнеўскай «дабрыні»?

Сярэдні ўзрост сучасных аматараў Брэжнева ў Расіі — 55 гадоў. Няцяжка падлічыць, што Брэжнеў — гэта іх юнацтва. Але вось выніковае ўражанне — яны НІЧОГА не памятаюць! Гэта на іх разлічана ўніверсальная формулёўка: «не ўсё так дрэнна».

І пры Гітлеру «не ўсё так дрэнна было...»

І пры Сталіну «не ўсё так дрэнна было...»

А пры Брэжневу ўвогуле амаль нічога дрэннага не было. Ну, хварэў чалавек на прагу бліскучых цацак...

## Карная медыцына — гэта не нацысцкі, гэта «брэжнеўскі» тэрмін

»

І сапраўды — што гэта хвароба ў параўнанні з гістарычным склерозам, які перашкаджае разгледзець у большасці постсавецкіх рэжымаў дзівосную сумесь сталіншчыны з брэжнеўшчынай, аздобленую непрыхаваным цынізмам?!

А цацкі? Ну, гуляюць у іх генералы на чале са шчодрым на ўзнагароды найноўшым «генералісімусам». Каму ад гэтага дрэнна?

Я ведаю, каму было б дакладна дрэнна — Шурку.

Шурка быў старэйшы за мяне на пяць гадоў. То бок мне было пяць, яму дзесяць. Ну, і гэтак далей.

Шурка таксама быў генералам і вельмі любіў ладзіць парады. Начапляў на сябе доўгі бацькоўскі пінжак з прышытымі пагонамі з кардону, на якіх былі намаляваны вялікія зоркі, выстройваў у рад дваровую малышню і загадваў: «На-пра-а-ва! Ша-а-агам марш!» Нехта збіваўся з нагі, ён падганяў, даваў у карак...

Недзе ў сярэдзіне 1950-х Шурка пайшоў у войска. Але хутка вярнуўся адтуль — з адной нагой, шэрым тварам і медалькай на запалых грудзях. Ні з кім у двары болш не знаўся, піў у адзіноце... А потым яго зарэзалі ля кінатэатра «Цэнтральны» — задраўся з-за «лішняга квіточка».

Хавалі яго ў тым жа «генеральскім» бацькоўскім пінжаку, з якога ён так і не вырас. Толькі ўжо з медалькай.

Медалька была за горад Будапешт. Але не за той Будапешт, што ў 45-м, а за той, што ў 56-м, калі савецкае войска душыла танкамі вугорцаў, што паўсталі супраць камуністычнай дыктатуры.

Прычым тут Брэжнеў?

А што, Чэхаславакія-68 — не з Вугоршчыны-56?

А сучасная АДКБ — не дзіця Варшаўскага дагавору, гатовае ратаваць «аўтарытарных лідараў»?

Кожны раз, калі палітыкі енчаць пра «гістарычную справядлівасць», чакайце паўтарэння гісторыі. І не заўсёды ў выглядзе фарсу. Наогул, няма чаго шукаць справядлівасці — яе ў гісторыі папросту няма. Ёсць гістарычны вопыт, які немагчыма засвоіць без гістарычнай праўды.

Што тычыцца Брэжнева, то найлепшым, на мой погляд, чынам гэты вопыт адлюстроўвае анекдот ягоных часоў.

Пасажыр тралейбуса разгортвае «Праўду» з вялізнай, на ўсю старонку, жалобнай рамкай. Іншы пасажыр, той, што ззаду, кранае першага і моўчкі, адной мімікай, нібыта зразумела без слоў, пытаецца з прыхаванай надзеяй: «Ужо?» — «Не, — са скрухай круціць галавой першы, — Пампіду...»

*kamerton_41@mail.ru*

# Дзяніс Раманюк:
# Фота без вады, як хлеб без масла

У «Ноч музеяў» 18 мая Нацыянальны мастацкі музей Рэспублікі Беларусь прэзентаваў выставу **«Беларусь сінявокая»** і аднайменны фотаальбом вядомага мастака Дзяніса Раманюка.


ДЗЯНІС РАМАНЮК

Лясное азярцо на Аршаншчыне стала падобным на сімвал «інь і янь».



Гутарылі мы з Дзянісам у кватэры-майстэрні яго таты Міхася Раманюка, знанага этнографа, які адзін працаваў за цэлы інстытут. Не паспела я ўладкавацца ў фатэлі, як Дзяніс хуценька запытаўся пра мае ўражанні ад яго выставы і кнігі.

**Дзяніс Раманюк:** Бяда творчых людзей у тым, што цябе ці хваляць, ці не кажуць нічога. Я хачу, каб мяне нехта крытыкаваў, я хачу прачытаць крытычны артыкул, што «Беларусь сінявокая» — гэта, напрыклад, папсовая кніга.

**«Наша Ніва»: Вы скажыце лепш, адкуль робіце здымкі відаў з вышыні. Можа, маеце ўласны верталёт?**

**ДР:** Вось пра гэта я сказаць не магу, бо пасля «мішак» гэта ўсё стала праблемай.

**«НН»: А раскажыце, тады адкуль ўзялася канцэпцыя выставы і кнігі?**

**ДР:** Для мяне фотаздымак без вады, як хлеб без масла. Вада — наш брэнд, пра які чуем паўсюль: па тэлеку, радыё, у газетах, але мы гэтага не бачым. У нас людзі хутчэй бачылі Чорнае мора, чым «сінявокую». Брэнд распіяраны, але за ім няма карцінкі. І вось некалькі гадоў таму, праглядаючы свае фотаздымкі, я заўважыў, што ў мяне ёсць тэмы, з якіх можна зрабіць асобнае выданне.

**«НН»: Самі ўсё рабілі для альбома?**

**ДР:** Так. Мяне ведаюць у першую чаргу як фатографа. І людзі, калі бяруць у рукі кнігу, пытаюць пасля: а хто табе тэксты напісаў? А макет хто рабіў? А выдавец хто? Ва ўсіх маіх кнігах, уключаючы бацькавы, дызайнер, фатограф, мастак і выдавец, а ў гэтай кнізе яшчэ і аўтар тэкстаў — я. Больш за тое, я сам сабе дырэктар і сам грузчык, кіроўца, якому трэба гэтыя альбомы развезці.

**«НН»: А што ўяўляў з сябе працэс падрыхтоўкі кнігі?**

**ДР:** Я рыхтаваў яе 5 гадоў. Для сваіх кніг я раблю сцэнар. Уяўляю, якія будуць часткі і якім будзе змест. Засяроджваюся толькі на тэме кнігі і, калі трэба, раблю дадатковыя фотасесіі. Вада ў кнізе прадстаўлена не проста ў форме рэк і азёр, а вада ўвогуле як з'ява прыроды, як раса, туман і іншае. Толькі год рабіўся макет. На год я замкнуўся, не ездзіў фатаграфаваць, бо мне падавалася, што гэта можа быць бясконца, увесь час чагосьці не хапала.

**«НН»: Дзе будзе распаўсюджвацца кніга?**

**ДР:** Кнігі ўжо ёсць ва ўсіх вялікіх кнігарнях Мінска, абласных і некаторых раённых цэнтрах. Яны даступныя шырокаму чытачу. Я той чалавек, якому патрэбна рэакцыя людзей. Калі мне творчы чалавек кажа, што ён робіць усё толькі для сябе і яму пляваць на меркаванні людзей, то гэта абсурд. Я хачу мець дыялог з гледачамі, а не класці ўсё ў майстэрню, пасля сустракацца з калегамі і казаць: «Ой, як усё кепска, ой, як усё ў лайне».

**«НН»: Ці карыстаецеся Вы фоташопам?**

**ДР:** Карыстаюся, але дзеля таго, каб на гэтых прыгожых фотаздымках з берагоў азёр прыбраць аднаразовыя бутэлькі, бычкі і ўсё астатняе смецце. Калі фатограф кажа, што не карэктуе здымкі для паліграфіі — ён хлусіць.

**«НН»: Вы шмат вандруеце, бачыце краіну. Можаце пацвердзіць той факт, што Беларусь такі «краіна сінявокая» і гэта не навязаны штамп?**

**ДР:** Ёсць краіны, якія маюць значна больш азёр. Але ж кожная нацыя стварае свой міф.

**«НН»: Парайце тады месца, каб пабачыць «Беларусь сінявокую».**

**ДР:** Гэта перадусім Лепель, Ушачы, Браславы. Там найбольшая канцэнтрацыя вадаёмаў, шмат кропак, з якіх можна атрымаць добрыя панарамы.

**«НН»: Чаму Вас навучылі шматлікія экспедыцыі з татам, а потым самастойныя?**

**ДР:** Любіць сапраўдную, не гарадскую Беларусь, з яе людзьмі. Разумець іх памкненні і каштоўнасці. Гараджане — гэта людзі, сапсаваныя грашыма і дабрабытам. А там людзі працы, адносін, павагі і адказнасці перад Богам. Там няма такой хлусні, якая часта ёсць у горадзе.

**«НН»: Вы жылі ў творчай сям'і, якім было дзяцінства малога Дзяніса?**

**ДР:** Вельмі шчаслівым. Я шмат чаму ў дзяцінстве павінен свайму тату, які навучыў мяне фатаграфаваць. Я па адукацыі мастак-графік і ніколі фота не займаўся. У дзяцінстве ж мне пашчасціла фатаграфаваць на аналагавую фотакамеру і самому праяўляць стужку. Мы шчасліва жылі без айпадаў і тэлевізараў. У дзяцінстве было мора вольнага часу, які я бавіў на вуліцы, мы з сябрамі палілі вогнішча проста каля шматпавярховых панэльных дамоў. Кралі яблыкі ў суседскіх садах. Тады я жыў рэальным, паўнавартасным жыццём. Зараз жа людзі жывуць чужым жыццём, якое паказваюць па целеку і ў кінатэатрах. Жывуць гульнямі ў компіку і анлайнам у сацсетках. У іх няма рэальнага жыцця.

### Мастаком мяне зрабілі бацькі, але я ненавідзеў маляваць »

**«НН»: Ваш лёс мастака быў прадвызначаны?**

**ДР:** Мастаком мяне зрабілі бацькі, але я ненавідзеў маляваць, мяне нагамі запіхвалі ва ўсе самыя крутыя мастацкія школы. Як-ніяк усе сваякі былі творчымі асобамі. Спачатку мяне запіхнулі ў 26-ю школу, якая цяпер ліцэй, там я правучыўся 3 гады, пасля чаго сышоў у звычайную калдырскую школу на раён. Тады было модна спортам займацца і кожны калдыр павінен быў хадзіць у спартзалу, інакш ты быў «ачкарыкам», якога не паважалі. Бацькі пабачылі, што я сышоў у адрыў, ізноў мяне перавялі ў ліцэй, пасля яшчэ раз была звычайная школа. Ну а ў выніку мяне ўжо запіхнулі ў Парнат.

### Калі забаранялі вольную творчасць, то людзям хацелася тварыць »

**«НН»: А не было жадання стаць кімсьці іншым насуперак жаданням сваякоў?**

**ДР:** Калі мяне засунулі ў Парнат, я трапіў у іх асяроддзе, якое каласальна на мяне паўплывала. Я трапіў з бессэнсоўнай калдырскай тусы ў асяроддзе творчых дзяцей, «задзвінутых» на мастацтве. Гэтае асяроддзе мяне пераламала, я зразумеў, што ў жыцці ёсць іншыя каштоўнасці, і я імі заразіўся. Тады я і зразумеў, што я мастак і хачу быць мастаком.

**«НН»: З Беларускай акадэміі мастацтваў Вас адлічылі за непаспяховасць?**

**ДР:** За прафесійную непаспяховасць. Я атрымаў тры двойкі па спецыяльнасці. Было рэальнае выключэнне, як непрызнанага. Трэба разумець, што ў той час адукацыя была, канечне, вельмі шаблоннай, а я не заўсёды быў шаблонным як у творчасці, так і ў паводзінах.

**«НН»: Неаднаразова сутыкалася з меркаваннем, што свабода сапсуе мастацтва, падзяляеце яго?**

**ДР:** Я бачу, што калі ў нас забаранялі вольную творчасць — людзям хацелася тварыць. Я вучыўся ў Парнаце, і ў той далёкі час нам забаранялі ўсё. Але мы тварылі, мы начамі праз вокны пералазілі ў майстэрні, на другі, трэці паверх па кратах, каб толькі памаляваць. Цяпер малюй што хочаш, акрамя адной асобы, але гэта ўжо нікому нецікава. У творчага чалавека заўсёды павінен быць канфлікт, ён павінен за штосьці змагацца.

**«НН»: А каму ў нас патрэбна гэтая творчасць, маленькаму творчаму колу?**

**ДР:** Акрамя іх, абсалютна нікому. Таму нашыя мастакі і не могуць стаць багатымі.

**«НН»: І што рабіць з гэтым будзем?**

**ДР:** Трэба працягваць «далбаць» і рабіць выставы, выдаваць кнігі. Мы павінны гэта рабіць нягледзячы ні на што і чакаць таго дня, калі тыя, у каго ёсць фінансы, прыйдуць да нас. А шараговаму чалавеку трэба толькі пажэрці і піва выпіць, і тут мы нічога не можам зрабіць. Хіба толькі колькасцю. І можа быць, як-небудзь яны трапяць на нашыя выставы, завітаўшы туды за кампанію.

**Гутарыла Вольга Гарапучык**

**Дзяніс Раманюк**

Нарадзіўся ў 1970 у Мінску. Працуе як выдавец, фатограф, дызайнер, этнограф і мастак. Выдаў наступныя кнігі: фотаальбом «Беларусь» (2003), «Чарнобыль» (2006), «Мой шлях Беларусь» (2008, 2010) і «Беларусь сінявокая» (2012).

Да 15 чэрвеня ў Нацыянальным мастацкім музеі (вул.Леніна, 20) працуе выстава Дзяніса Раманюка «Беларусь сінявокая». Зробленыя з зямлі, вады і нават з паветра 305 фотаздымкаў альбома, 25 з якіх экспануюцца на выставе, паказваюць вядомыя і схаваныя ад погляду чалавека азёры і рэкі.

# Лёс палітвязня Арцёма Грыбкова: загінуў, але даў жыццё іншаму чалавеку

Пра трагічную смерць былога палітвязня Арцёма Грыбкова стала вядома толькі праз два месяцы пасля здарэння. Родныя не афішавалі. Ён загінуў, калі жонка чакала дзіця. Удава **Святлана Юронак** расказала гісторыю іх трагічнага кахання.



**Арцём Грыбкоў (6 студзеня 1989 — 13 снежня 2012)**

Нарадзіўся ў Карэліцкім раёне. Вучыўся ў Мінскім каледжы лёгкай прамысловасці. За ўдзел у Плошчы-2010 адбыў дзесяць сутак адміністрацыйнага арышту, а затым яго асудзілі на 4 гады калоніі за так званыя масавыя беспарадкі. Вызвалены ў жніўні 2011. Загінуў у аварыі праз месяц пасля вяселля. Пахаваны ў Карэлічах. 30 красавіка 2013 у яго нарадзіўся сын Яраслаў.




### «Спачатку ён мне не спадабаўся»

**«НН»: Кажуць, што час лечыць. Як Вам жылося гэтыя пяць месяцаў без Арцёма?**

— Гэта лепш не ўспамінаць. Цяпер крыху адыходжу. Але па вечарах бывае накатвае так, што суняцца не магу. Першыя дні і месяцы зусім было цяжка...

**«НН»: Як вы пазнаёміліся?**

— У гіпермаркеце «Гіпа» ў 2010. Я там працавала, а Арцём толькі ўладкаваўся. Ён пасля расказваў, што закахаўся ў мяне, як толькі ўбачыў. А я не. На той момант я сустракалася з іншым хлопцам, які таксама быў з Карэлічаў. Але адносіны з ім ужо не ладзіліся. І калі мы пачалі гуляць з Арцёмам, ён проста знік: адключыў тэлефон, не прыходзіў.

**«НН»: Можа, Арцём з ім пагаварыў сур'ёзна?**

— Хутчэй за ўсё.

**«НН»: А чым ён Вас скарыў у выніку?**

— Не ведаю. Спачатку падумала, што не для мяне чалавек. А калі пагулялі, пагаварылі, то ўзнікла адчуванне, што доўга яго ведала. Гулялі ўвесь гэты час, а ён нічога мне не казаў пра пачуцці. Я сабе падумала: пакуль сам не прызнаецца ў каханні, крок насустрач не зраблю.

**«НН»: І пасля рашыўся?**

— На Новы год. Мы не разам адзначалі. І ён спачатку пазваніў, а пасля ў смс-цы напісаў.

**«НН»: Такі падарунак пад ёлку.**

— Ён мне і да гэтага рабіў падарункі, кветкі ўсё дарыў. Але я рашыла, пакуль не скажа сам, нічога не падзейнічае на мяне. Кветкі дарыў нават без нагоды, што мяне радавала.

**«НН»: Ён рамантыкам быў?**

— Канечне. Расказваў, што вершы піша, але не надала гэтаму вялікай увагі. А мне пачаў вершы з турмы прысылаць на паштоўках. І ўсё выбачаўся, што выбар паштовак у іх невялікі.

**«НН»: Вершы Вам прысвячаў?**

— Так. Мне ён прысылаў такія рамантычныя, а маме, цётцы, бабулі — сур'ёзныя. І вярнуўся з турмы з трыма сшыткамі, спісанымі вершамі.

### «Не паверыла, што яго вызвалілі»

**«НН»: У Вас з Арцёмам яшчэ не было сур'ёзных адносінаў перад падзеямі 2010 года. Ведалі, што ён пайшоў на мітынг?**

— Мы разам з працы ішлі ў той вечар. Ён усё прапаноўваў пайсці пагуляць, а я адмаўлялася, бо стамілася. І такое адчуванне, што назло мне ён пайшоў туды. Я дадому прыйшла, і ён патэлефанаваў: «Я ўжо ўсё...» Адсядзеў дзесяць

> **На Арцёма ціснуў вялікі горад. Калі ж прыязджаў у Карэлічы, нібы ажываў »**

сутак. А пасля выхаду хлопцы паказалі ў інтэрнэце фотаздымак з Арцёмам з мітынгу. «Ну ўсё, мяне цяпер дакладна пасадзяць», — сказаў. Так і атрымалася: прыйшлі на працу і забралі.

**«НН»: Забіралі па-ціхаму?**

— Я ў той дзень не працавала, мне пасля расказалі. Усе бачылі, як забіралі: прыйшлі, начапілі кайданкі і павялі.

**«НН»: Страшна было, калі яго арыштавалі другі раз?**

— Я не ведала, што будзе далей. Не думала, што так сур'ёзна: чатыры гады ўсё-ткі далі. Пасля арышту ягоны сябар напісаў, што Арцём на Валадарцы, бо я дакладна не ведала, дзе яго трымаюць. Напісала яму ліст. Да суда перапісваліся.

**«НН»: Вы і на суд хадзілі?**

— Так, штодня — з працы даводзілася адпрошвацца. Толькі на першы дзень не трапіла.

**«НН»: Верылі, што яго могуць выпусціць раней?**

— Не.

**«НН»: Але гатовыя былі чакаць чатыры гады?**

— Так. Я ўсім сказала пра гэта. Бацькі былі не супраць.

**«НН»: Калі вызваліўся, Вам адной з першых патэлефанаваў?**

— Так, але я не паверыла адразу. І паехала ў вёску. А там сувязь не ўсюды ёсць. А калі ўдалося праверыць, хто тэлефанаваў, то аказалася шмат званкоў з незнаёмага нумара. Перазваніла, а там ягоны голас. Я адразу заплакала. І на наступны дзень сустрэліся.

Пасля ён у Мінск перабраўся. Спачатку кватэру здымаў, а пасля да мяне пераехаў — вырашылі ажаніцца.

**«НН»: А як Вашыя бацькі ставіліся да Арцёма?**

— Любілі яго. Жыць не было дзе, а здымаць кватэру не хацелася. Яны і прапанавалі, каб ён пераязджаў да нас. У жніўні ён вызваліўся, а на Новы год я запрасіла з бацькамі пазнаёміцца. У красавіку пераехаў да нас.

**«НН»: Чым ён займаўся пасля вызвалення?**

— Уладкаваўся на працу.

**«НН»: У «Гіпа» вярнуўся?**

— Не. За горадам працаваў.

**«НН»: А ў вольны час што рабіў?**

— У яго вольнага часу фактычна не было. Гадзін у 8 раніцы сыходзіў і вяртаўся позна: і ў 23 гадзіны здаралася. Ад замоваў залежыў ягоны заробак, таму ён заставаўся даўжэй.

### «Ён перастаў мне сніцца»

**«НН»: Як ён загінуў?**

— З працы ехаў і трапіў у аварыю...

У нас кожны дзень быў не падобны на папярэдні. Жыццё было разнастайнае, і дома мы практычна не сядзелі. І за дзень да трагедыі ён прыйшоў гадзін у восем вечара дамоў. Не думалі нікуды выходзіць. А ён кажа: «Ведаеш, хацеў на канцэрт схадзіць і грошы адклаў. Давай у кіно лепш сходзім». Адчуванне было, што гэта апошні дзень праводзілі разам. Позна з кіно вярнуліся, добра пагулялі. А на наступны дзень усё адбылося...

**«НН»: Планавалі нешта на будучае?**

— Хацелі пасля нараджэння дзіцяці адпачыць на поўдні. Увогуле Арцём хацеў пераехаць са мной у Карэлічы. Я прывыкла жыць у вялікім горадзе, паколькі ў Мінску нарадзілася. І мне не хацелася пераязджаць. А на яго, відаць, ціснуў вялікі горад, яму тут не зусім утульна было. Калі ж прыязджаў у Карэлічы, нібы ажываў.

**«НН»: Ён Вам сніцца?**

— Да 40 дзён — штоночы. Пасля дзесяці праз дзень. А цяпер зусім не. Мне хочацца, каб ён сніўся... Адзін раз прысніўся, што па інтэрнэце прыйшло паведамленне ад Арцёма. Хоць я ўсведамляла, што яго ўжо няма. І запыталася, чаму так здарылася. «Так трэба было», — адказаў. І спытаўся, ці атрымала я ад яго грошы. А тады акурат прайшоў «Марафон салідарнасці» і мне перадалі дапамогу.

**«НН»: Калі Арцёма не стала, яшчэ не ведалі, хто ў Вас народзіцца?**

— Гэта здарылася за тыдзень да ўльтрагукавога даследавання. Але ў яго было прадчуванне: усім казаў, што народзіцца сын. А праз тыдзень урачы пацвердзілі, што будзе хлопчык.

**«НН»: А імя выбіралі з Арцёмам?**

— Так. У нас былі тры варыянты: Расціслаў, Яраслаў, Іван. Але сышліся на Яраславу.

**«НН»: Сынок толькі нарадзіўся, а ўжо можна сказаць, на каго ён падобны?**

— Не ведаю. Мая мама кажа, што майго ў яго пакуль нічога няма. Напэўна, на Арцёма больш падобны. Падрасце, яшчэ нешта змяніцца...

Я хацела б падзякаваць тым, хто адгукнуўся, калі не стала Арцёма, калі нарадзіўся сынок. Было прыемна атрымаць падтрымку ад незнаёмых людзей.

**Сяргей Макарэвіч**

**Любімай Святлане**

Заўсёды, калі ранкам устану,
Адразу гляджу на Святлану.
На гэтыя вабныя вусны,
На тварык, мілы і спакусны,
На рукі, мякчэй за кужэлю,
Я ад жадання шалею.
Хачу я прыціснуць Святлану,
Рукамі абвіць вакол стану,
Дарыць ёй мае пацалункі,
У краме купляць пачастункі,
Увесь аддаваць свой заробак
І разам пражыць гадоў сорак!

Ды толькі часценька бывае,
Святлана мяне дапякае,
Як рак тады ўміг чырванее,
У момант брыднее, дурнее,
Злуецца, крычыць і галосіць,
Мяне па матулі паносіць.
Тады я хачу (паміж намі)
Яе накарміць тумакамі,
За шыю яе патрымаці,
Вяроўкай звязаць да кравaці.

Ды толькі нічога, адходзіць,
І зноў да нас шчасце прыходзіць,
І добра мне з ёй на планеце,
І мы веселімся, як дзеці.

P.S. Скажу я адразу Вам, братцы,
За верш палучу я па срацы!

**Арцём Грыбкоў**

**Сям'ю Арцёма Грыбкова можна падтрымаць**

Ахвяраванні перасылайце на адрас: 220018, г. Мінск, вул. Бурдзейнага, д. 20, кв. 92. Юронак Святлана Ігараўна.

# Скарбы нацыі

Іх хавае **Беларускі музей у Лондане**.

Гэты музей месціцца ў адным з дамоў сядзібы Беларускага рэлігійнага і культурнага цэнтра імя святога Кірылы Тураўскага. Музей займае другі паверх. У тым самым доме з рыпучымі лесвіцамі на першым паверсе змяшчаецца бібліятэка імя Францішка Скарыны. Тамсама жыве і апостальскі візітатар для беларусаў замежжа, айцец Аляксандр Надсан.

Вызначыць, дзе сканчаецца бібліятэка і пачынаецца музей, досыць цяжка: кнігі паўсюль. Зрабіць гэта дапамагаюць хіба дыхтоўныя, па ўсіх правілах аформленыя музейныя стэлажы з экспанатамі.

Гэта музей для сваіх. Сюды не прадаюць квіткоў, у турыстычных бюро няма яго рэкламак. Хутчэй, гэта калекцыя, выстаўленая з прэзентацыйнымі мэтамі: пабачыўшы яе, кожны зразумее, што за край — Беларусь. Асабліва калі экскурсаводам — сам айцец Надсан.

Агляд невялікага па плошчы музея займае гадзіну. За кожным экспанатам — гісторыя. Унікальныя слуцкія паясы, якіх у музеях Беларусі няма, расказвае Надсан, яму пашчасціла купіць... на «блышыным рынку», у якогасьці габрэя. Падобным чынам прывандравала ў музей і Скарынава Біблія.

Большасць экспанатаў музея прысвечана XX стагоддзю: мапа Беларускай Народнай Рэспублікі, артэфакты ваенных часоў, значкі, шаўроны, грошы незалежнай Рэспублікі Беларусь — ад прадметаў, якія ёсць мала не ў кожным беларускім доме да нацыянальных святыняў. Такіх, як аўтограф «Кургана» Купалы ці турэмная роба Ларысы Геніюш.

Музей пачынаў збірацца яшчэ тады, калі непахісна стаяў мур між Захадам і Усходам і Беларусь здавалася назаўсёды зняволенай у савецкай імперыі. Беларускія арганізацыі за мяжой засноўвалі людзі, якія не спадзяваліся калісьці вярнуцца, пабачыць родных, што засталіся там, за калючым дротам.

Завітайце ў музей, як будзеце ў Лондане. Натхніцеся энергіяй, жыццялюбствам, верай айца Надсана.

**Тэкст і фота Сяргея Зініна**




Турэмная роба Ларысы Геніюш.

**Беларускі культурна-рэлігійны цэнтр**

знаходзіцца ў раёне Finchley (Фінчлі) у паўночным Лондане, на скрыжаванні Holden Avenue і Holden Road. Найпрасцей дабрацца **метро**: паўночнай лініяй да станцыі Woodside Park.

**На аўто:** з Паўночнай кальцавой шашы (North Circular) звярнуць на A1000, а потым улева да Tally Ho Corner.

**Аўтобусам:** 82-м з аўтобусных станцыяў Victoria або Golders Green; 134-м з Oxford Street — абодвума аўтобусамі да Tally Ho Corner; 221-м з Mill Hill Broadway і 326-м з Brent Cross — да прыпынку Sussex Ring.



«Курган» Янкі Купалы. Аўтограф з аўтарскімі праўкамі.



Унікальныя слуцкія паясы, купленыя на «блышыным рынку».




Экспанаты з першых гадоў незалежнасці.




Пачак махоркі часоў Другой сусветнай.



Паштовыя маркі БНР.



Срэбная грыўня: беларуская валюта XV ст.

# Зрэзалі падсохлыя

**Ад уражання я кінулася званіць сябрам і ў ахову прыроды.**

У ахове не ўзнялі трубку. Але я выйшла на сувязь з самым канкрэтным спадаром — начальнікам участка ЖКГ.

– Какие берёзы?.. Что вам сказал тот человек? Падсохлые срезали. І не берёзы. Вы же посмотрите...

Паглядзела. Сумна вярнулася ў памяці да тэлефоннай размовы.

– Вы же посмотрите, какие кривульки стоят вдоль улицы. Вы же пройдите.

А я хіба не хаджу тут з 1965 года? Па сваёй вуліцы і сваёй ваколіцы? Хіба не хвалююся за няўважлівасць да прыроды: да флоры і фаўны? Хіба не бачу, што возеру ўжо няма рады, што выразаныя ўсе найлепшыя (наймацнейшыя і найстрайнейшыя) дрэвы?

Крывулькі? Дык гэта ж рэзвая «мастацкасць» горакульгуршчыкаў. Ясені, ліпы, клёны, якія пакінулі, пакалечылі — падгузавалі да самых вяршынь — міні-чубікаў, назначылі ім упрыгожваць аблокі. Пнёў тады пузатых, скуластых наставілі, трохметровай вышыні. Потым давялося яшчэ пні-волаты зразаць, гарувае траціць. Ды і пры вас летась як прайшлася навальнічная віхура па Глыбокім і павaліла слабейшыя дрэвы, вы не пару дзясяткаў знялі, і добрых, і крывулек. І на вуліцы, і ў прараджаным скверы. Добра, што гнёздаў яшчэ не было на дрэвах. А сёлета?

Ад 1 мая кароткая і напружанабурная, раптоўная і спраўная вясна. Мы як бы ўкуліліся з холаду ды ў такую зелень. А птушкі — гракі, — якія ледзь не загінулі ад голаду і холаду, прыляцеўшы ў лютым, пакуль яшчэ не было падмецена, збудаваліся і там, дзе хоць крышачку змаглі зачапіць галінку. Гэта проста цуд. Гэта трэба бачыць боска-чалавечым вокам. Такую цяжкую і руплівую птушыную працу. Ну якая іх віна, што радзіма — тут, што іншай няма, што вёсак няма, дрэваў няма адпаведных. Жыць няма дзе. А яны ўсё яшчэ ёсць. Як і мы, беларусы.

## Гракі ўночы крычаць, адчайна, жалобна

Ноччу супакойваюцца. На небе зоркі. На зямлі бягуча-майская радасць дробных птушак, жаб на сажалках, двух буслоў на вежы за школай. Але гракі (здрыганулася маё сэрца) чамусьці ўночы крычаць, адчайна, жалобна. Яны так галосяць. Здарылася! Тое, ад чаго кожная вясна пужаецца. Ад чалавечай рукі.

А спадар начальнік участка ЖКГ казаў мне: «Зрэзалі падсохлыя».

А на падсохлых?.. Ды няма ж ніякай жывой дурнечы сярод крылатацці, якая сялілася б на такіх. І я ўспомніла букет гнёздаў. І схадзіла, і пагледзела. Так, худзенькае, нібы і падсохлае, дрэўца стаіць. Зверху ледзь раскрывае лісточкі. Але ўжо зелянее. Яго ж, хілае, не чапалі? Як адгаворку, што зразаюцца сухія. Спілаванае тое, якое распускаецца значна пазней. Ясень спазняецца па сваёй прыродзе. А другое? Нешырокі, белы пень на самай зямлі. Ці не бяроза. Так? І гэта было 13 мая 13-га года.

У хрысціян праваслаўных — жывая Радаўніца. Яны сцвярджаюць, што ў гэты дзень усё жыве. Усё радуецца. Адно вось толькі — жалобна крычаць гракі. Кожную вясну ў іх мітусня і роспач да паўлета. А ў мяне трывога, ледзь заскуголіць піла.

З такім настроем я і рванулася ў восем гадзін пятнаццатага мая да спадара Эдуарда Длужнеўскага, начальніка лясгаса і дэпутата. Ён жа лясны кіраўнік, у яго душа, думаю... І ён, мабыць, падкажа ім хоць бы тэрмін зрэзу, каб да гнездавання пярнатых. Можа ўгаворыць. Я ж нікому не зычу зла. Ні людзям, ні жывёлам, ні птушкам. Ні начальнікам, ні падначаленым, ні жыхарам. Але чалавек жа мае Слова. І стварае Законы. Ды самавольнічае. Чаму, напрыклад, замазалі «Пагоню» на балконе асабістай кватэры Мiсевіча? Без папярэдняй размовы з ім? Калі б дамовіліся, ён бы і сам, але акуратна, зняў, бо ведаў бы, што ад «Пагоні» ў некаторых асоб — страх. Хоць ёй і пашанцавала быць гербам Віцебскай вобласці. І не псавала выгляду фасаднай часткі дома. Выходзіць, «пагонямі» ўпрыгожваць балкон нельга, а дрэвы зразаць у перыяд гнездавання птушак можна.

Ну, дайце адчуць свята, людзі! Дайце пабыць вясне. І ў вачах, і ў душы. А ўжо восенню будзь што будзе!

### «Я к вам пишу»

Такая тэма прыснілася пасля ўздыху ў скверы. Як бы хтосьці мне дае тэму на конкурсе, семінары ці яшчэ дзе. Колькі ж хвілін адводзіцца на напісанне, думаю. Ці трэба экспромт? Ці сачыненне па Пушкіну? Ці збяруся з думкамі? Дык што ж, урэшце, кажа сон? Я ж напісала на тэму: «Дайце пабыць вясне!». Ліст трэба разгорнуты — здагадалася. І вось які атрымаўся:

«Дарагія людзі! Сапраўды ж «я да вас пішу». Да вашых душ. Да спадара канкрэтнага суразмоўцы. Да тых , з кім ён «согласовывал свои действия», бо так сказаў мне: «всё же согласовано. И дизайнера мы вызывали». Дык тады і да ўнутранага слыху і светабачання дызайнера. Мы ж — людзі. І ў нашых асобах прызнаецца Богам укладзеная душа. А душа — гэта розум плюс пачуццё, якое выдае сэрца.

Дарагія людзі! Толькі ж мы тут, на белым свеце — першая і апошняя інстанцыя. Можам, калі захочам, калі здагадаемся, калі пагаднімся, зразумеем і паверым у прысутнасць душы ў чалавеку, а ў душы — Бога, можам зладзіць чалавечы парадак.

Не самавольнічайце перад душой, мілыя. Не знішчайце жывое бяздумна, на вачах у вясны! Птушак таксама не бывае непрыгожых, непатрэбных, лішніх. Як не бывае болю ў душы (калі ён завёўся там ад любові) лішняга. Не мы задумалі і стварылі прыроду, яе жыццёвы працэс. Мы яе толькі вывучаем альбо не, выяўляем навуковыя высновы альбо рэдка датыкаемся да кніг, часопісаў ці тэлеперадач. Задаём сабе пытанні альбо не, ці зусім не думаем. Не знішчайце ў сабе памкненне паверыць у чуласць, у дабрыню, паспачуваць усяму жывому на свеце. Дазвольце пабыць вясне, лету ў прыродзе і душы! «Я к вам пишу». Душа піша.

**Марыя Баравік, Падсвілле (Глыбоцкі раён)**

## «Беларускамоўныя ўсёй краіны, яднайцеся!»

**На праблему мовы, як і іншыя праблемы жыцця, трэба глядзець з пункта гледжання раскруткі, прасоўвання, тэхналогіяў.**

Дапусцім, ёсць тры ахвотныя размаўляць па-беларуску. Размаўляйце. Потым у вашую кампанію трапляе чацвёрты, але рускамоўны. З цягам часу і ён становіцца беларускамоўным. Так — з пятым, шостым... пятнаццатым.

Запішыцеся куды-небудзь у вандроўку (напрыклад, да Астаповіча), і вы пабачыце, што беларускамоўных цэлы аўтобус. Нас так шмат!

У нас, напрыклад, у Глыбокім тут цэлая супольнасць. Ладзяцца сустрэчы з пісьменнікамі, розныя прэзентацыі, нават паездкі на прыроду з шашлыкамі (праўда, гэта робяць маладзейшыя за мяне), ставяцца намёты, узнімаецца над «лагерам» бел-чырвона-белы сцяг.

Археолаг Людміла Дучыц з Акадэміі навук папрасіла мяне сустрэць групу вандроўнікаў і завезці іх у цэнтр Еўропы (возера Шо, Глыбоцкі раён).

Прыехала група мінчукоў на сваім уласным мікраўтобусе з дзецьмі, чалавек пад 20, усе спрэч беларускамоўныя, нават вадзіла! Співаюць беларускія песні, выдатна ведаюць гісторыю... Вы не паверыце! Гэта была іхняя 88-я супольная вандроўка па Беларусі.

Беларускамоўныя ўсёй краіны, яднайцеся!

**Уладзімір Скрабатун, Глыбокае**

### Удакладненне

У «НН» №20 за 2013 была допушчаная прыкрая памылка. Рэжысёрам фільма «Стылягі» з'яўляецца Валерый Тадароўскі, сын Пятра Тадароўскага. Перапрашаем.

# Беларуская глыбіня. **Урад для народа**

Піша **Павел Севярынец.**



**Павел Севярынец**

палітык, пісьменнік. Сузаснавальнік Маладога Фронту, пасля Беларускай Хрысціянскай Дэмакратыі. Асуджаны на тры гады «хіміі» па справе так званых «масавых беспарадкаў» — так лукашэнкаўцы называюць пратэсты з патрабаваннем дэмакратыі і справядлівасці, што адбыліся ў дзень выбараў 19 снежня. Адбывае пакаранне ў Купліне Пружанскага раёна.

*І, прыступіўшы, Ісус сказаў ім: дадзеная Мне ўсякая ўлада на небе і на зямлі.*
*Мацвея 28:18*

– Ну хто там яшчэ... Па якім пытанні? Не бачыце, я заняты.

Агульная лічба *занятых* у органах дзяржаўнага кіравання РБ — 170 тысячаў чалавек, з іх да 60 тысячаў — дзяржаўных служачых (гэта без «сілавых ведамстваў», а такіх, вядома, ільвіная доля). На кожнага чыноўніка — некалькі чалавек абслугі. З сем'ямі — цэлы клас. Райвыканкамы ўжо не ўмяшчаюцца ў прызначаных будынках: паперазварот расце, аддзелы ды службы распаўзаюцца па райцэнтрах... і аднячасова пакрысе растуць, прыгажэюць «царскія сёлы».

А хто тысячамі скупляе кватэры ў Мінску? Расейцы? Не, найперш — раённая ды абласная наменклатура — на дзяцей, жонак, зяцёў...

Каржакаватыя дзядзькі калгаснага выгляду з учэпістымі тлустымі пальцамі, носамбульбінай і каменным выразам твару, народжаныя за Сталіным, або цётачкі нявызначанага ўзросту з металам у голасе і пышнай грудай колеру іржавага дроту на галаве.

Прызначаныя. Зразумела — калі б іх выбіралі людзі, людзям і служыць бы стараліся. А калі прызначаюць — служаць таму, хто прызначае. Наколькі ж глыбокая яна тут, у беларускай глыбінцы, прорва: адказныя за вёску, мястэчка, горад смокчуць з падсправаздачнага кавалка зямлі столькі, колькі ёсць模 моцы.

Цяперашняе абяцанае скарачэнне 13 тысячаў дзяржаўных службоўцаў (абвешчанае як «аптымізацыя») асуджанае застацца на паперы: стаўкі і паўстаўкі для сваякоў, штатныя адзінкі ў кабінетах або фікцыі «кадравікоў», «эканамістаў» і нават «псіхолагаў» у прыкладных бізнесах — напарсткі, у якія мясцовая бюракратыя за часы Лукашэнкі навучылася гуляць з заплюшчанымі вачыма.

## Цяперашняе скарачэнне дзяржаўных службоўцаў асуджанае застацца на паперы

Для Беларусі рэальная рэформа ўлады азначае не перасоўванні з крэсла ў крэсла, а сур'ёзную аперацыю на сэрцах.

Знешне ўсё проста. Выбары войтаў, паветовых старастаў ды кашталянаў, рэзкае скарачэнне штатаў — і забеспячэнне самаўрадаў грашыма. Бо самакіраванне — гэта адказнасць, падмацаваная бюджэтам. Цяпер падаткі збіраюцца на месцах, ідуць у цэнтр, міністэрствы і ведамствы... Выплаты размяркоўваюцца — і назад, праз тую ж даўжэзную кішку: цэнтр-вобласць-райвыканкам-прадпрыемства... Чалавеку са сплочаных падаткаў пасля кругласуткавай вандроўкі па краіне вяртаюцца капейкі. А навошта безліч прамежкавых ступеняў? Слушна, каб лягчэй было адшчыпнуць або ўрваць. Адпаведна, «на месцах» застаюцца з пустымі кішэнямі.

Патрэбная дэцэнтралізацыя, якая карупцыю знішчае. На добры лад, падаткі дзеляцца на трацiны. Трацiна застаецца на мясцовым узроўні — у вёсцы, муніцыпалітэце мястэчка ці мікраараёна. Трацiна — на рэгіён (не на савецкую вобласць, разлічаную з меркаваннаў імперскага адміністравання ды ВПК, а на гістарычны, эканамічна ёмісты рэгіён — Аршаншчыну, Полаччыну, Піншчыну і г.д.). Трацiну — на агульнанацыянальныя патрэбы.

З накрадзеным новай уладзе давядзецца разбірацца крута. Мільярды, нарабаваныя ды ўкладзеныя чынавенствам найперш у нерухомасць, давядзецца вяртаць дзяржаве. Тым, хто верне добраахвотна — амністыя. Не верне, не пакаецца — следства. Суд, канфіскацыя і далей паводле кодэкса.

Што дапаможа?.. «Закон Лінкальна». У свой час у Штатах увялі закон: грамадзянін, які дакazвае факт карупцыі, атрымлівае 25% ад сумы скрадзенага. Як бышцам знайшоў чалавек скарб — і здаў дзяржаве. Аналагі «Закона Лінкальна» ашчаджаюць у заходніх краінах дзясяткі мільярдаў у год — бо чыноўнікі баяцца гэтага. Ведаюць: пільныя грамадзяне з задавальненнем паведамяць куды трэба і не збаяцца.

Пара, пара беларусам пазбаўляцца і ад калгаснага «ўсё вакол нічыйнае, усё вакол маё», і ад шчасця «красці, красці, красці». І ад ілжывай сарамлівасці, быццам выкрыццё злодзея тоеснае панятку «стучаць».

Ясна, што ўсё не так проста — бо залежыць ад чалавека.

Такім чынам, хто там яшчэ? Па якім пытанні?..

І ў гэты момант высвятляецца: начальнік сядзіць у кожным з нас. Сядзіць моцна, усім карэнням, за тым жа родным савецкім дубовым сталом... І спакуса ўладай, хай невялікай, вечнае рэха трэцяга спакушэння, якім выпрабоўваў Ісуса сатана, — жыве, як і Беларусь, вечна.

Дзе ж возьмуцца дзясяткі тысячаў сумленных і адказных беларусаў, *здольных служыць*, а не красці, хлусіць, душыць і не пускаць?..

У Беларусі ёсць толькі адна масавая супольнасць людзей, якія вучацца, стараюцца і ўмеюць такія спакусы перадольваць. Цэрквы. Вернікі — праваслаўныя, каталікі, пратэстанты. У разбураных вайной, са спаленым фашызмам і нацызмам сумленным Нямеччыне ды Італіі менавіта вернікі, што каяліся або вызваляліся з канцлагераў, сталіся маральнай базай для адраджэння — і далі пачатак магутнай плыні хрысціянскай дэмакратыі, і паднялі народы з руінаў.

У сённяшняй Беларусі маральнае разбураная ўлада яшчэ больш ступені, чым старадаўнія замкі і сядзібы. А значыць, пара згадаць: у часы ВКЛ краіна кіравалася радамі, магістратамі, староствамі вернікаў (дзе праваслаўныя, каталікі і пратэстанты з агульнай згоды мянялі адзін аднаго штогод) — і сумленная ўлада сцвярджалася вяршэнства закона ды справядлівасці.

Бо там, на небе, за беларускія мястэчкі, гарады і рэгіёны спытаюць не з сённяшніх старшыняў райвыканкамаў або намеснікаў начальнікаў па ідэалагічнай працы: баюся, там мы іх не ўбачым. Спытаюць з нас — тых, хто любіць Беларусь і верыць у Бога.

*Куплін*

Музей «Замкавы комплекс «Мір» Польскі інстытут у Мінску БІП — Інстытут правазнаўства



Міжнародная навуковая канферэнцыя

# Магнацкі двор і сацыяльнае ўзаемадзеянне (XVI-XVIII стст.)

## Мінск — Мір, 6—8 чэрвеня 2013 года

**6 чэрвеня, 10.00—18.00**
**БІП — Інстытут правазнаўства,**
**г.Мінск, вул. Караля, 3, аўд. 20**

**7 чэрвеня, 10.00—18.00**
**Музей «Замкавы комплекс «Мір»,**
**г.Мір, вул. Чырвонаармейская, 2.**

**www.mirzamak.by, www.instpol.by, www.bip-ip.by**

Пасольства Рэспублікі Польшча ў Беларусі. УНП 101184926

# Беларусь—Фінляндыя




11 чэрвеня на стадыёне «Цэнтральны» ў Гомелі пройдзе адборачны матч да чэмпіянату свету па футболе. Сустракаюцца Беларусь і Фінляндыя. Пачатак а 20-й. Білеты — ад 70 да 180 тысяч.

## БОКС

### Чэмпіянат Еўропы ў Мінску

**7—9 чэрвеня** пройдуць вырашальныя баі на чэмпіянаце Еўропы. Бокс можна будзе паглядзець у Палацы спорту (пр. Пераможцаў, 4). Білеты ад 55 да 95 тысяч.

## ГАНДБОЛ

### Беларусь — Ісландыя

**12 чэрвеня ў Палацы спорту** адбудзецца адборачная гульня да чэмпіянату Еўропы. Беларусы прымуць адну з наймацнейшых зборных свету — Ісландыю. Білеты — 30 — 45 тысяч рублёў. Пачатак а 18-й.

## ІМПРЭЗЫ

### Мамант

**15—16 чэрвеня ў Мінску** пройдзе трынаццаты фестываль сучаснага мастацтва і авангарднай моды «Мамант». **15 чэрвеня а 14-й у Музычным тэатры** — конкурсны паказ авангарднай моды, **у 19.30** — конкурс фэйс-арта (першая частка). Праграму завершыць **а 20-й** Гала-паказ калекцыяў.

**У гэты ж дзень у клубе «Міленіум» (пр. Пераможцаў, 7) у 19.30** пачнецца конкурс бодзі-арта, **а 24-й** — другая частка конкурсу фэйс-арта.

**16 чэрвеня а 15-й** перад будынкам Гістарычнага музея — карнавал і канцэрт.

### Minsk street gamez

**8 чэрвеня а 12-й** на тэрыторыі «Мінск-Арэны» стартуе Minsk street gamez — Фестываль вулічнага спорту. За званне мацнейшага будуць змагацца ўдзельнікі і каманды напрамкаў: скейтбордынг, ролерспорт, free-style баскетбол, хіп-хоп і брэйк-данс…

### Першы Сырны Фестываль пад Мінскам

**15 чэрвеня а 11-й на тэрыторыі Беларускага дзяржаўнага музея народнай архітэктуры і побыту** адбудзецца «Першы Сырны Фестываль пад Мінскам».



Падчас фестывалю наведнікі змогуць не толькі паўдзельнічаць у дэгустацыі сыроў, але і паспрабаваць свае сілы ў заваяванні Сырнага Алімпійскага медаля…

### Магілёўская ноч у кнігарні «логвінаЎ»

**6 чэрвеня а 22-й у кнігарні «логвінаЎ» (пр. Незалежнасці, 37а)** пры свечках і аранжадзе адбудзецца спірытычная прэзентацыя кнігі магілёўскага паэта Дзімы Дзмітрыева «Ліра спіралі». У імпрэзе возьмуць удзел: Анка Упала, Віктар Жыбуль, Віталь Рыжкоў, Ірына Герасімовіч.

## КАНЦЭРТЫ

### Джазавыя суботы

**15 і 29 чэрвеня а 19-й** на плошчы Свабоды пройдзе музычны праект «Джазавыя суботы ля Ратушы».

**15 чэрвеня** вас чакаюць гурты Eddie Henderson (ЗША), Liptnitsky Show Orchestra (Беларусь), Three Fall (Германія).

**29 чэрвеня** — Jaak Lutsoja group (Эстонія), дуэт Kekko Fornarelli i Roberto Cherillo (Італія) і трыа Канстанціна Гарачага (Беларусь).

### Сонцам асвячуся

**15 чэрвеня а 19-й у канцэртнай зале «Мінск» (Малая сцэна)** — Іван Кірчук запрашае на творчую сустрэчу «Сонцам асвячуся…».

### Танцы з Бубнам

**14 чэрвеня а 19-й у «Графіці» (зав.Калініна, 16)** — канцэрт «Танцы з Бубнам». Прэзентуецца міні-альбом «В-52». Разам з Уладам Бубнам выступяць выбітныя беларускія паэты Вольга Гапеева, Алесь Плотка (Байсан) і Ярыла Пшанічны.




### Рок за Баброў

**15 чэрвеня на аэрадроме «Баравая» пад Мінскам а 14-й** пачнецца 8-ы штогадовы музычны фестываль «Рок за Баброў». Хэдлайнерамі «Рок за Баброў» стануць фінскі гурт Sunrise Avenue (**на фота**), а таксама піцерскі рок-гурт Animal ДжаZ. Будуць і беларускія гурты — «Без білета» і НАКА. Уваход вольны.

## ВЫСТАВЫ

### Партрэты ўладароў і магнатаў Вялікага Княства Літоўскага

**Да 26 жніўня ў Мастацкім музеі** працуе выстава «Партрэты ўладароў і магнатаў Вялікага Княства Літоўскага». Многія з партрэтаў Сапегаў, Тышкевічаў, Сангушак упершыню стануць вядомыя беларускім даследнікам. Творы прадаставілі музеі Львова і Вальні.

### Стасіс Красаўскас

**Да 25 ліпеня ў Мастацкім музеі** працуе выстава графічных твораў народнага мастака Літвы Стасіса Красаўскаса. Красаўскас працаваў у самых розных тэхніках (ксілаграфія, літаграфія, лінагравюра, афорт) і ствараў станкавыя гравюры, а таксама шматлікія ілюстрацыі да літаратурных твораў.

## ТЭАТР

### 6 чэрвеня

**Оперы і балета** — «Травіята»
**Купалаўскі** — «Паўлінка»
**Беларускай драматургіі** — «Ліфт»

### 7 чэрвеня

**Оперы і балета** — «Тамар. Шахеразада»
**Беларускай драматургіі** — «Раскіданае гняздо»

### 8 чэрвеня

**Лялек** — «Мыйдадзір»
**Беларускай драматургіі** — «Адамавы жарты»

### 9 чэрвеня

**Лялек** — «Чырвоны Каптурок»
**Оперы і балета** — «Тоска»

### 10 чэрвеня

**Беларускай драматургіі** — «Дажыць да прэм'еры»
**Купалаўскі** — «Вячэра з прыдуркам»
**Оперы і балета** — «Лебядзінае возера»

### 11 чэрвеня

**Юнага гледача** — «Прыгоды Бібігона»
**Купалаўскі** — «Старамодная камедыя»
**Беларускай драматургіі** — «Тры Жызэлі»

### 12 чэрвеня

**Юнага гледача** — «Пані Завіруха»
**Беларускай драматургіі** — «Тры Жызэлі»

### 13 чэрвеня

**Юнага гледача** — «Вясёлы Роджар»
**Оперы і балета** — «Севільскі цырульнік»
**Купалаўскі** — «ГендэльБах»
**Беларускай драматургіі** — «Адэль»

### 14 чэрвеня

**Юнага гледача** — «Царэўна Жабка»
**Беларускай драматургіі** — «Бегчы з Эльсінора, альбо Гамлет навыварат»
**Купалаўскі** — «Вячэра з прыдуркам»

### 15 чэрвеня

**Лялек** — «Чырвоны Каптурок»

### 16 чэрвеня

**Лялек** — «Марозка»
**Купалаўскі** — «Офіс»
**Оперы і балета** — «Зала чакання»




**Штогод у музеі «Дудуткі» праходзяць конкурсы сярод майстроў розных прафесій. 8 чэрвеня ў Дудутках сустрэнуцца найлепшыя кавалі Беларусі.** Кожны з іх зможа пахваліцца сваімі дасягненнямі, новымі інтэрпрэтацыямі старадаўніх тэхналогій. На працягу ўсяго дня наведвальнікі змогуць паўдзельнічаць у майстар-класах, паспрабаваць сябе ў якасці каваля. Будзе канцэрт гурта «Вурай». Падрабязней па тэл.: (017) 133-07-47; (029) 602-52-50; (029) 603-52-50.

## КІНО

### Гагарын. Першы ў космасе

**Жанр:** біяграфія, драма
**Рэжысёр:** Павел Пархоменка
**Акцёры:** Яраслаў Жалнін, Сяргей Калашнікаў, Сяргей Лакцюнькін, Анатоль Атраднаў, Вадзім Мічман
Расія, 2013, 108 хв.

Фільм прысвечаны першым крокам чалавецтва на шляху асваення космасу і непасрэдна лёсу першага касманаўта Юрыя Гагарына. Лейтматыў — барацьба за права быць першым: спаборніцтва ў першым атрадзе касманаўтаў; канкурэнцыя тэхналогій у ракетабудаванні; супрацьстаянне — СССР і ЗША. У першы атрад касманаўтаў адбіралі з трох тысяч лётчыкаў-знішчальнікаў па ўсёй краіне. У легендарную дваццатку патрапілі найлепшыя з лепшых. Хто з іх паляціць першым, не ведаў ніхто. На гэтым шляху давялося змагацца не толькі з зямным прыцягненнем…



# Гэта наша мова, гэта нашы школы

Дзе дзяцей навучаюць **па-беларуску.**

У гэтым навучальным годзе больш за 151 тысячу школьнікаў (16,4% ад агульнай колькасці) вучыліся па-беларуску. У садках выхавальнікі гаварылі на беларускай мове з больш чым 45 тысячамі хлопчыкаў і дзяўчатак (11,4%). На беларускай і расейскай — 15,2 тысячы дашкольнікаў (3,8%).

Хутка набор у першы клас і малодшыя групы. Прапануем падрабязную інфармацыю, адрасы і кантакты беларускамоўных школ і садкоў.

Улічыце, што часам у школе набіраюць у класы з рознымі замежнымі мовамі (напрыклад, у гімназіі №23 традыцыйна «А» клас — з англійскай, а «Б» — з кітайскай). Звяртайцеся ў школу як мага раней, каб падаць заяву ў першы ж дзень прыёму дакументаў, інакш усе месцы могуць аказацца занятыя.


Па-беларуску вучацца 200 тысяч дзяцей

СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

### Мінск. Беларускамоўныя школы і гімназіі

**Гімназія №4** (Кунцаўшчына, 18): навучанне ў фізіка-матэматычных, хіміка-біялагічных і філалагічных класах.
E-mail: gymn4@minsk.edu.by; т.: (017) 258-49-71, 258-49-74.

**Гімназія №23** (пр. Незалежнасці, 45): выкладанне на высокім узроўні англійскай, кітайскай моваў.
E-mail: gymn23@minsk.edu.by; т.: (017) 284-47-62, 284-87-16.

**Гімназія №9** (Сядых, 10): паглыбленае вывучэнне англійскай мовы, факультатыўнае — польскай. Прапануе вывучэнне прадметаў музычнага цыкла.
Т.: (017) 283-04-21, 281-38-04.

**Гімназія №28** (Ракасоўскага, 93): паглыбленае вывучэнне французскай мовы, міжнародныя абмены, выкладанне прадметаў на французскай мове (краіназнаўства, літаратура Францыі) па праграмах, распрацаваных настаўнікамі школы.
E-mail: sch2@minsk.edu.by.; т.: (017) 248-32-02, 248-12-64.

**Гімназія №14** (Васняцова, 10): паглыбленае вывучэнне замежных моваў, спецкурсаў па міфалогіі, псіхалогіі, асновах эканамічных ведаў, журналістыцы. На базе гімназіі дзейнічаюць фальклорны ансамбль, музей, літаратурная студыя і студыя бальных танцаў.
Т.: (017) 295-01-33, 295-21-31.

**СШ №190** (Нікіфарава, 19): выкладанне на беларускай і расійскай мовах. Бясплатная музычная адукацыя і спартыўныя секцыі.
E-mail: sch190@minsk.edu.by. Т.: (017) 260-24-90.

**СШ №60** (Лібкнехта, 82) — навучанне з музычным ухілам. У школе дзейнічаюць гурткі, клубы, музей, творчыя і грамадскія аб'яднанні.
Т: (017) 208-69-74, 209-94-49.

**СШ № 68** (зав. Ахоцкі, 17): набор у класы з фальклорна-тэатральным напрамкам.
E-mail: sch68@minsk.edu.by; т. (017) 243-76-82.

### Мінск. Белмоўныя класы ў расейскамоўных школах

**СШ №11** (Асаналіева, 14) — школа з агульнаэстэтычным ухілам.
Т.: (017) 277-45-34, 275-59-10.

**СШ №108** (Уральская, 15) — спартыўныя гурткі і секцыі, вячэрнія класы.
E-mail: sch108@minsk.edu.by; т.: (017) 245-20-41.

**СШ №131** (Убарэвіча, 74) — вывучэнне замежных моваў (нямецкай, польскай, французскай, іспанскай, шведскай), харэаграфіі.
Т.: (017) 340-62-38, 345-14-12.

**СШ №180** (Радужная, д.8, корп.3) — паглыбленае вывучэнне англійскай мовы.
Т.: (017) 250-10-49.

**СШ №209** (Рафіева, 91) — вывучэнне французскай мовы, вакальная студыя, спартыўныя секцыі.
Т. (017) 274-69-71, 256-48-77.

**СШ №110** (Брэсцкая, 66) — дзейнічае праграма «Здароўе».
Т. (017) 278-58-81, 278-11-12.

### Гродна

**СШ №32** (Ліможа, 11)
Т.: (0152) 48-50-48; 43-64-03.

### Магілёў

**СШ №1** (Першамайская, 24)
Т.: (0222) 22-12-64; 31-07-85.

### Баранавічы

**СШ №14** (Піянерская, 98)
Т.: (0163) 42-51-50.

### Дзіцячыя садкі Мінска з беларускамоўнымі групамі

**Заводскі раён**
ДДУ №202 (Партызанскі пр., 85а). Т.: (017) 245-12-92.

**Кастрычніцкі раён**
ДДУ №97 (Ландэра, 18). Т.: (017) 277-89-11, 277-49-20; ddu97@minsk.edu.by.

**Ленінскі раён**
ДДУ №101 (Якубава, 60). Т.: (017) 238-88-61.

**Маскоўскі раён**
ДДУ №143 (Караля, 3б). Т.: (017) 200-96-20.
ДДУ №412 (пр. Газеты Праўда, 64а). Т.: (017) 271-68-47.
ДДУ №473 (Ясеніна, 6/4). Т.: (017) 271-94-06.
ДДУ №541 (Ясеніна, 137). Т.: (017) 205-37-24.

**Партызанскі раён**
ДДУ №543 (Бумажкова, 39). Т.: (017) 235-36-02.

**Першамайскі раён**
ДДУ №220 (Каліноўскага, 11а). Т.: (017) 265-23-02.
ДДУ №273 (Каліноўскага, 89. Т.: (017) 263-06-84.
ДДУ №522 (Русіянава, 23). Т.: (017) 260-65-01.
ДДУ №66 (пр. Незалежнасці, 102а).Т.: (017) 264-60-52.
ДДУ №361 (Цікоцкага, 44). Т.: (017) 263-38-28.

**Савецкі раён**
ДДУ №314 (Багдановіча, 68а). Т.: (017) 234-25-61.

**Фрунзенскі раён**
ДДУ №561 (Сухараўская, 9). Т.: (017) 259-09-90.
ДДУ №534 (Матусевіча, 59). Т.: (017) 257-76-91.
ДДУ №570 (Чайлыткі, 8). Т.: (017) 215-60-44

**Цэнтральны раён**
ДДУ № 187 (Кахоўская,64а). Т.: (017) 213-06-71 — 6 груп, афіцыйна цалкам беларускі.
ДДУ № 218 (б-р Шаўчэнкі, 13). Т.: (017) 288-09-33.
ДДУ № 234 (Карастаянавай, 19). Т.: (017) 288-50-75.
ДДУ № 503 (Радужная, 4, корп.2). Т.: (017) 234-36-05.

**Падрыхтавала Настасся Храловіч**

Здароўе

# Як вытрымаць спёку?

Карысныя парады на летнія месяцы.

Многія з нас любяць лета, але роўна да таго моманту, пакуль слупок тэрмометра не перавышае 25 градусаў. Пасля пачынаецца ныццё і фразы накшталт «да зімы засталося 20 панядзелкаў». Жарты жартамі, а для людзей з захворваннямі сэрца такая спякота можа стаць сапраўдным выпрабаваннем. Як падрыхтавацца да паспяховай барацьбы са спёкай?

**Як выжыць дома**

У гарачае надвор'е часцей прымайце халодны душ, трымайце рукі па локаць пад струменем халоднай вады. Добрым варыянтам будзе выкарыстанне бутэлькі для спрэю, каб час ад часу асвяжаць твар.

Таксама, ратуючыся ад спёкі дома, наляпіце на вокны сонцаахоўныя прылады з фольгі ці плёнкі, якія адлюстроўваюць сонечныя прамяні.

**Як выжыць на вуліцы**

Па магчымасці не выходзьце на вуліцу ў самы гарачы час дня: паміж 11 і 15 гадзінамі. Выбірайце лёгкую, прасторную вопратку з натуральнай тканіны. Яна дазволіць целу дыхаць і прадухіліць з'яўленне непрыемнага паху. Абавязковы галаўны ўбор, калі вы доўга знаходзіцеся на адкрытым сонцы. Фізічныя нагрузкі ў спякоту варта скарачаць.

**Як выжыць у офісе**

Калі побач з вашым працоўным месцам усталяваны кандыцыянер — не спяшайця радавацца, бо гэты цуд тэхнікі нярэдка становіцца прычынай прастудных захворванняў нават у летні перыяд. Тэмпература, якую нармальна пераносіць арганізм, — 20—22 градусы, пры ўмове, што кандыцыянер знаходзіцца не над вашым сталом, а на другой сцяне, за 2—3 метры.

Каб асвяжыць паветра ў памяшканні, рэкамендуецца паставіць на падваконне збанкі з пакаёвымі кветкамі. Таксама карысна паставіць на свой стол адкрыты посуд з вадой.

Даказана, што, калі тэмпература паветра перавальвае за 26°С, чалавек становіцца менш уважлівым і яго працаздольнасць зніжаецца. У такім выпадку прагуляйцеся па калідоры, папіце гарбаты.

**НХ**



СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

## Топ-5 карысных напояў

**1. Вада**
Самы просты і, бадай, карысны спосаб наталіць смагу. Медыкі раяць піць 2—3 літры вады ў дзень.

**2. Гарбата**
Зялёная гарбата змяшчае вітамін Р, які становячы ўплывае на стан сасудаў. Чорная — лепш бадзёрыць і танізуе, бо змяшчае кафеін.

**3. Кісламалочныя прадукты**
Слушна робяць тыя, хто спатаяляе смагу ў летнюю спёку кефірам, ражанкай, сыроваткай і ёгуртам. У кісламалочных прадуктах змяшчаюцца арганічныя кіслоты, дзякуючы якім вы адразу адчуваеце, што смага бясследна сышла.

**4. Сок**
Натуральныя сокі і нектары выдатна дапамагаюць перамагчы смагу. Але абіраць іх трэба ўважліва, бо прыгатаваныя з парашкоў напоі ніякай карысці арганізму не дадуць.

**5. Квас**
Якасны квас насычаны карыснымі бактэрыямі і амінакіслотамі. Дзякуючы гэтай асаблівасці, кісла-салодкі напой выдатна спатаяляе смагу і дапамагае страўніку хутчэй пераварваць ежу.



У першы дзень лета на хутары «Шаблі» (Валожынскі раён) прайшоў канцэрт пад адкрытым небам. «Бітлз-фэст» адбыўся без дажджу, затое з добрым настроем і музыкай.



Спёка дакучае не толькі беларусам. Большасць жыхароў Лахора (другі па велічыні горад Пакістана) праводзіць першыя дні лета ў вадзе ці каля яе.



Карнавал у расійскім Іркуцку прайшоў пад бел-чырвона-белымі сцягамі, з якімі на свята выйшла беларуская дыяспара.



Беларуская мадэлька Кацярына Зінгарэвіч стала тварам новай калекцыі італьянскай бялізны Mediterraneo (па-італьянску — «Міжземнае мора»).

## Анекдоты і жарты

* * *

Усе людзі пасля смерці трапляюць альбо ў рай, альбо ў пекла. І толькі беларусы — альбо ў рай, альбо назад у Беларусь.

* * *

— Сёння забіў пяць мух. Двух самцоў і трох самак.

— А як ты іх адрозніваеш?

— Дзве сядзелі на бутэльцы з півам, а тры на люстэрку.

* * *

Калі Робін Гуд ажаніўся, то не ўсё, што ён забіраў у багатых, стала даставацца бедным.

* * *

— Нявестачка, ты ўжо скаціну пакарміла?

— Не, мама, спіць яшчэ ваш сынок!

* * *

Калі ў 40 пераскокваеш турнікет у метро, то здароўе ў парадку, але пра сваё жыццё варта задумацца.

* * *

На вясковай краме аб'ява: «Пайшла на абед. Вярнуся, калі наемся».

* * *

Вочы кажуць больш, чым словы. Яна сказала мне: «Я хачу цябе». Яе вочы ж дадалі: «І катлету з падлівай, калі ласка».

* * *

Якое добрае надвор'е! Трэба падсунуць камп'ютар бліжэй да акна.

* * *

— Мама, ты раней любіла серыялы?

— Што ты, Ізаўра, канечне, не.

## «НН» сто гадоў з вамі

**На Брылёўскім полі, 15 вёрст ад Барысава,** адкрылі помнік па тым войску, каторае пала падчас вайны з французамі ў 1812 гаду. На гэту цырымонію прыехаў губернатар з Мінска, з Вільні — камандуючы войскамі віленскай акругі. Па абедзе загадалі палкавому музыку зайграць польку, а сялянскім дзяўчатам — танцаваць. Але штосьці танцы не клеіліся: дзяўчаты цяперашнія не надта ўмеюць забаўляць паноў.

**«НН». №22. 1913.**

**Руслан Салей: як стаць героем.** Гол, які Салей закінуў у авертайме трэцяга матча ў браму «Нью-Джэрсі», тэхнічна бездакорны, адрадзіў надзею «Анахайма» на станоўчы вынік фіналу Кубка Стэнлі. Беларускі хакей набыў майстра, якога дагэтуль не меў. Салей на сваім асабістым узроўні зрабіў тое, што мусіць зрабіць кожны з нас і краіна ў цэлым. Рэалізаваць свой патэнцыял. Стаць героем.

**«НН». №21. 2003.**


# Наша Ніва

незалежная газета

заснаваная ў 1906, адноўленая ў 1991

галоўныя рэдактары «Нашай Нівы»:
З.Вольскі (1906), А.Уласаў (1906—1914), Янка Купала (1914—1915), А.Луцкевіч, У.Знамяроўскі (1920), С.Дубавец (1991—2000).

сакратарка рэдакцыі — Наста Бакшанская
шэф-рэдактар — Андрэй Дынько
намеснікі галоўнага рэдактара — Ягор Марціновіч, Зміцер Панкавец
галоўны рэдактар — Андрэй Генадзевіч Скурко
заснавальнік — Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»
выдавец — Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»

АДРАС ДЛЯ ДОПІСАЎ:
220050, Мінск, а/с 537
Tel/fax: (017) 284-73-29, 8-029-613-32-32, 8-029-707-73-29.
E-mail: nn@nn.by
On-line: www.nn.by

**Падпісны індэкс:**
індывідуальны — **63125**
для прадпрыемстваў — **631252**




8 палос фарматам А2, 4 друк. арк. Друкарня Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/0494179 ад 03.04.2009. Пр. Незалежнасці, 79, 220013, Мінск. Рэдакцыя не нясе адказнасці за змест рэкламных абвестак. Пасведчанне аб рэгістрацыі перыядычнага выдання №248 ад 22 чэрвеня 2009 г., выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Юрыдычны адрас: 220101, г. Мінск, вул. Асаналіева, 15-128. Р/р 3012206280014 у МГД ААТ «Белінвестбанк», Мінск, код 764.

Наклад 8004. Газета выдаецца 48 разоў на год.
Нумар падпісаны ў друк 23.00 4.06.2013.
Замова №2486.
Рэдакцыйны адрас: Асаналіева 15-128.
Цана дамоўная.

ISSN 1819-1614

М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12